ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 36 (2498)
ПЯТНІЦА
5
чэрвеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## ТУТ РОБЯЦЦА ПЕРШЫЯ ПА...

### БЕЛАРУСКАМУ ХАРЭАГРАФІЧНАМУ—25

Яно зусім яшчэ маладое. Параўнайце: яго дваццаціпяцігадовы ўзрост — і 164 гады існавання Маскоўскага харэаграфічнага вучылішча ці 232 гады Ленінградскага імя А. Ваганавай...

Але калі ўлічыць, што лічба 25 у балеце — гэта цэлы сцэнічны шлях артыста і што «юбіляр» мае ўжо сваіх «ветэранаў», то стануць зразумелымі ўрачыстасці, якімі Беларускае харэаграфічнае вучылішча адзначала свой юбілей.

Балет... У кожнага з нас з гэтым словам спалучаюцца ўяўленні аб чымсьці фантастычна прыгожым, гарманічным і лёгкім, аб пластыцы і паэзіі чалавечага цела, аб тонкім артыстызме і інтэлекце, без якога на маўклівай умоўнай харэаграфічнай сцэне ніколі не здолееш стварыць глыбокі вобраз. Але перш чым усяго гэтага дасягнеш...

Перанясёмся ў закулісную частку Беларускага тэатра оперы і балета. Вось яны спяшаюцца па калідорах у трыко і пуантах, хлопчыкі і дзяўчынкі — будучыя балерыны і танцоўшчыкі. Сярод іх і зусім маленькія, тыя, што першы год спасцігаюць нялёгкую навуку Тэрпсіхоры. Толькі што празвінеў званок з урока, трэба паспець перакусіць, а ў буфеце, напэўна, чарга, а тут яшчэ дарослыя «зоркі» балета, якраз зараз перапынак у рэпетыцыі. Але малыя шчаслівыя саступіць ім сваю чаргу, яны з замілаваннем глядзяць услед стройнай прыгожай постаці Людмілы Бржазоўскай, Раісы Красоўскай, Яўгена Паўловіча, якія, нешта хутка дажоўваючы, спяшаюцца на рэпетыцыю, не заўважаючы нясмелых дзіцячых позіркаў. А тыя глядзяць ім услед. Гэтыя салісты таксама скончылі Беларускае вучылішча. Напэўна, і яны ў свой час стаялі тут у чаозе і таксама з замілаваннем пазіралі на «прым»: Аляксандру Нікалаеву, Лідзію Ражанаву, Сямёна Дрэчына...

Ледзь паспеўшы выпіць кубак кавы, будучыя «зоркі» разбягаюцца па класах, дзе іх чакае праца — упартая, цяжкая, няспынная.

(Заканчэнне на 4-й стар.)



Людміла Цярэнцьева ў танцы «Пахіта» (выпуск 1969 года).

# ТУТ РОБЯЦЦА ПЕРШЫЯ ПА...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Сталі ў першую пазіцыю. Падцягнуліся! Лапатачкі злучыце, плечыкі апусціце.

— Руку адкрылі і—раз, два...

— Мякчэй руку, мякчэй!..

І калі гады далёка адкінуць сённяшні дзень, калі многія з вучняў стануць салістамі балета, усё роўна будзе той жа станок, тая ж да сёмага поту праца, бо інакш згубіш «форму» і тады лічы, што ты для балетнай сцэны «загінуў».

Такія іх будні. Але затое ўвечары прыходзіць свята. Свята мастацтва, радасць яднання з гледачом, шчасце поспеху, кветкі...

Некалькі пакаленняў артыстаў балета выпусціла Беларускае харэаграфічнае вучылішча. Творчы шлях лепшых яго выхаванцаў звязаны са сцэнай тэатра оперы і балета БССР. Многія з выпускнікоў сталі салістамі тэатраў краіны. У Літоўскім оперным працуюць Святлана Масанёва, Святлана Гайда, Міхаіл Прошкін, Барыс Марцінкевіч, у Свярдлоўску — браты Патаповічы, у Львове — Вольга Самойленка і Вольга Сібіржанава, у Саратаве — Аляксандра Шчарбакова і Леанід Аляксееўскі. Некаторыя з гэтых артыстаў прыехалі на юбілей свайго вучылішча.



Таццяна Ільіна, Таццяна Чупахіна і Наталля Буглаева перад выхадам на сцэну (3 курс аддзялення народна-характарнага танца).



«Слава героям». Выконваюць навучэнцы 7-га класа.



«Тарэадоры». Выконваюць вучань 2-га класа Коля Сянкевіч і вучань 3-га класа Віця Кудраўцаў.

Такія канцэрты штогод адбываюцца ў апошнія дні мая. Яны звычайна называюцца «справаздачнымі». Выпускнікі паказваюць, чаго яны дасягнулі за восем гадоў навучання. Сёлетні быў незвычайны. У ім разам з цяперашнімі вучнямі прымалі ўдзел і ранейшыя, многія з якіх сталі майстрамі харэаграфіі, педагогамі...

Вось з хваляваннем глядзіць на выступленне свайго выхаванца, лаўрэата Міжнароднага конкурсу артыстаў балета Віктара Саркісяна былы вучань Беларускага харэаграфічнага вучылішча, а зараз яго мастацкі кіраўнік і педагог класічнага танца Аляксандр Іванавіч Каляда́энка. А вось стараецца стрымацца, не паказаць свайго хвалявання народная артыстка БССР Аляксандра Васільеўна Нікалаева. Аляксандра Нікалаева... З гэтым імем звязана цэлая эпоха ў беларускім балеце. Хто са старых мінчан не помніць яе — бліскучую Кітры («Дон Кіхот»), Зарэму «Бахчысарайскі фантан»), Надзейку («Князь-возера»), Зосю («Салавей»)... Шмат гадоў літаральна панавала яна на беларускай балетнай сцэне! Цяпер Аляксандра Васільеўна перадае сваё майстэрства выхаванцам вучылішча.

Помняць таксама мінчане, тыя, каму давялося бачыць некалькі артыстычных пакаленняў, таленавітую лірычную балерыну, заслужаную артыстку БССР Ніну Младзінскую — паэтычную Жызель, Адэту, Марыю... Ніна Фёдараўна выхавала некалькі пакаленняў артыстаў балета. Адна з яе вучаніц — Маргарыта Алфімава — салістка Ленінградскага тэатра імя С. М. Кірава. У беларускім балеце працуе заслужаная артыстка рэспублікі Раіса Красоўская, выхаванка Ніны Фёдараўны, тэмпераментная, яскравая танцоўшчыца. Вось яна плыве па сцэне ва «Ўсходнім танцы» з балета І. Штрауса «Блакітны Дунай». Раіса ўжо выкладае ў харэаграфічным вучылішчы, вядзе клас характарнага танца. Разам з ёю выкладае таксама былы выпускнік вучылішча малады саліст балета Міхаіл Грышчанка. Міхаіл карыстаецца поспехам у гледачоў, ён выконвае галоўныя ролі ў спектаклях «Спартак», «Альпійская балада», «Выбранніца». У Беларускім харэаграфічным вучылішчы вядуць клас класічнага танца яго былыя выпускнікі Тамара Захарава і Віктар Саркісян. У юбілейным канцэрце можна было ўбачыць артыстаў розных гадоў выпуску. Адажыо са «Шчаўкунчыка» выконвалі Людміла Лыч і Мікалай Самалазаў, Пастараль з другога акта оперы «Кармэн»—Святлана Ціты́овіч і заслужаны артыст рэспублікі Леанід Чахоўскі. Дуэт «Тарэадоры» выканалі вучні другога і трэцяга класа—самыя малодшыя з удзельнікаў канцэрта. Гледачам спадабалася, як станцаваў выпускнік гэтага года Віктар Бескаравайны эцюд на музыку Д. Шастаковіча «Уцёкі». Дарэчы, Віктар разам з групай выпускнога класа ездзіў сёлета з канцэртамі на Філіпіны і ў Японію...

На жаль, гледачы не змаглі ўбачыць у канцэрце вядучых салістаў тэатра оперы і балета малодшага пакалення Людмілу Бржазоўскую, Яўгена Паўловіча, Юрыя Траяна. Яны разам з іншымі артыстамі тэатра паказвалі ў гэтыя дні сваё майстэрства на сцэне аднаго з лепшых тэатраў краіны — Ленінградскага імя С. М. Кірава.

Разам з юбілеем вучылішча адзначалі 25 гадоў работы ў ім загадчык навучальнай часткі і педагог Надзежда Грыгор'еўна Абуховіч, выкладчыкі Надзежда Мікітаўна Малахава, Соф'я Сцяпанаўна Асташонак, Алена Пятроўна Лютарэвіч.



Яня Каспяровіч (3 курс аддзялення народна-характарнага танца).

У гэты вечар было шмат віншаванняў, абдымкаў, кветак... Адной з тых, на долю каго іх выпала асабліва шмат, была



Былыя навучэнцы вучылішча, цяпер артысты Беларускага тэатра оперы і балета Святлана Цітовіч і Леанід Чахоўскі выконваюць танец «Пастараль» з оперы «Кармэн».

дырэктар Беларускага харэаграфічнага вучылішча заслужаны дзеяч культуры рэспублікі Клаўдзія Фёдараўна Калітоўская — добры кіраўнік і клапатлівая маці для навучэнцаў вучылішча, на чале якога яна з 1951 года.

...Хутка ў Беларускім харэаграфічным вучылішчы скончыцца навучальны год. У яго класах, калідорах стане непрывычна ціха. Але канікулы праляцяць непрыкметна і неўзабаве загарэлыя, тоненькія дзяўчаткі і хлопчыкі зоймуць свае месцы ля станкоў і стануць у першую пазіцыю. І ў класах зноў і зноў пачуецца:

— Усталі. Падцягнуліся. І-і...

**Б. ШАРАШЭУСКАЯ.**

Фота Ул. КРУКА.

З ПОШТЫ «ЛІМа» З ПОШТЫ «ЛІМа» З ПОШТЫ «ЛІМа» З ПОШТЫ «ЛІМа»

# ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ

Рэдакцыйная пошта прыносіць водгукі чытачоў на выступленне журналісткі Алы Чарнушэвіч «Гледачамі не нараджаюцца», змешчанае ў № 28 ад 10 красавіка г. г. на старонках «Літаратуры і мастацтва». Водгукі розныя: ёсць і ў «падтрымку» выказаных аўтарам думак і назіранняў, ёсць і «супраць». Размова ідзе пра тое, як выхоўваць і потым падтрымліваць цікавасць гледачоў да тэатральнага мастацтва. Агульная думка — першнаперш гэта залежыць ад ідэйна-мастацкіх вартасцей спектакляў.

Чытач з гарадскога пасёлка Маларыта С. Крывель падкрэслівае, што бывае ў чалавека такі настрой, калі яму патрэбна жывое і непасрэднае мастацтва — мастацтва тэатра. Вось такі настрой С. Крывель называе «голадам на высокія пачуцці» — трагедыйныя ці камічныя, здольныя абудзіць эмацыянальны роздум аб жыцці. Калі ж замест гэтага, працягвае аўтар пісьма, ты чакаеш заканчэння спектакля і сумуеш, бо наперад ведаеш ход падзей і маральныя высновы, у наступны раз, мабыць, пашукаеш які-небудзь іншы занятак у вольны вечар. На думку С. Крывеля, гледачы цяпер вельмі строга правяраюць мастацтва жыццём і не даруюць тэатру «катурнаў» і штучнасці. Добры тэатр для гэтага аўтара той, дзе «не бегаюць па сцэне і не крычаць, як на рацэ плытагоны... Нашы ж тэатры адштурхоўваюць гледачоў сваёй казённай дэкламацыяй, сваім бяздушным крыкам-пафасам. Гэта датычыць ігры акцёраў». Адносна рэпертуару С. Крывель гаворыць наступнае: часта тэатр вымушае гледачоў «шукаць сярод абломкаў фраз і думак нейкую ісціну, якая была б вартая вынясення на ўсеагульны агляд і абдумванне».

Шкада, што С. Крывель не называе фактаў — тыя тэатры, п'есы і спектаклі, якія далі яму падставы так катэгарычна асуджаць і манеру ігры акцёраў, і змест сцэнічных твораў. Таму не зусім пераконвае ён і тады, калі сцвярджае, што меры, прапанаваныя ў артыкуле «Гледачамі не нараджаюцца», скіраваны на тое, каб «заганяць» гледача ў тэатр. Той, хто ідзе ў тэатр, як на чаргозае культмасавае мерапрыемства, піша аўтар, адбывае павіннасць, а вялікай карысці гэта не прыносіць.

Як бы працягвае гэтыя думкі С. Крывеля наш чытач з вёскі Лецяшын Клецкага раёна І. Сцяпура. Ён упэўнены, што далёка не кожны чалавек можа быць сталым і заўзятым гледачом тэатра. Спрачаючыся з А. Чарнушэвіч, гаворыць, што і С. Маршак не любога з нас зрабіў бы гарачым прыхільнікам паэзіі, чытаючы нам самыя цудоўныя шэдэўры. А тэатр, на жаль, частуе шэдэўрамі рэдка. І атрымліваецца, што гледача «арганізоўваюць», каб ён паглядзеў спектакль, дзе жыццё паказана не так глыбока, як яго ведае наведвальнік партэра ці балкона. З гумарам расказвае І. Сцяпура пра тое, як у ягонай вёсцы настаўнік В. Варэнік пачаў нападжваць музычную самадзейнасць, і амаль усе бацькі набылі для сваіх дзяцей баяны. Ну, і што з таго? Той з хлопчыкаў, хто мае музычныя здольнасці, вучыцца з захапленнем, а большая частка пад прымусам бацькоў спрабуе і расчароўваецца. Таксама і гледача з чалавека, які аддае перавагу, скажам, спорту ці філатэліі, на думку аўтара пісьма, не выхаваеш. Па-першае, яго трэба захапіць вартым увагі відовішчам. Па-другое, ён павінен ведаць прафесіянальную ацэнку, якую дае сцэнічнаму твору крытыка, дапамагаючы кожнаму з нас разабрацца ў сваіх уражаннях. «Рэспубліканская прэса мала піша пра тэатр, мала друкуе рэцэнзій на спектаклі», — падтрымлівае І. Сцяпура заўвагу А. Чарнушэвіч, спасылаючыся ў прыватнасці, на газету «Чырвоная змена», якую ён выпісвае.

Мінчанка К. Каліціна шкадуе, што ў артыкуле А. Чарнушэвіч мала сказана пра Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы («Пра мой любімы тэатр», — падкрэслена ў пісьме). Густы гледача фарміруе сам тэатр, які абавязаны «крочыць у нагу з публікай, а яшчэ лепш — трохі наперадзе». Зразумела, калі частка залы ў часе паказу спектакля «Што той салдат, што гэты!» сядзіць... у буфеце, гэта сведчыць аб тым, што буфет можа варта адкрываць толькі ў антрактах. Але не толькі «аб тым»... Балюча было К. Каліцінай слухаць грубыя, недарэчныя рэплікі суседзяў на спектаклі «Праўду! Нічога акрамя праўды!..» Тут вінаваты і празмерна гарачыя «каментатары» з ліку гледачоў, якія не ўмеюць элементарна прыстойна паводзіць сябе...

Ёсць і яшчэ прычына. Аўтар пісьма настойвае на тым, што аблегчаныя ў ідэйна-мастацкіх адносінах спектаклі «10 сутак за каханне» і «Адкуль грэх?» дрэнна ўплываюць на гледача: ён на іх і «вучыцца» рэагаваць на ўсё бесцырымонным рогатам і рэплікамі ўголас.

І яшчэ словы К. Каліцінай: «Тэатр — своеасаблівая школа жыцця. Чалавек хоча бачыць на сцэне праўдзівую рэчаіс-

# ДУША НАРОДА — ДУША ТАНЦА

С. ГРАБЕНШЧЫКАЎ,
заслужаны дзеяч культуры БССР

НАШ народ любіць танцавальнае мастацтва. Гэта любоў яго — у характары, у крыві. Любяць танец і ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Сёння ў Беларусі больш як пяць тысяч самадзейных танцавальных калектываў, а ў іх — 50 тысяч танцораў. Пятнаццаць танцавальных калектываў маюць высокае званне «Народны». Многія калектывы танцавалі ў Польшчы і Балгарыі, ГДР і Францыі, у Маскве і саюзных рэспубліках. Яны вынеслі ў свет славу нашага самадзейнага танцавальнага мастацтва.

Я пішу гэтыя нататкі аб мінулым конкурсе-аглядзе мастацкай самадзейнасці, прысвечаным ленінскаму юбілею, намнога пазней тых незабыўных дзён. Але і сёння стаіць уваччу тое ні з чым не параўнанае, калейдаскапічна-яркае відовішча...

Толькі ў трэцім туры конкурсу прынялі ўдзел 110 танцавальных калектываў, 16 ансамбляў песні і танца і сем вакальна-харэаграфічных ансамбляў, якія выканалі 211 разнастайных харэаграфічных і 23 вакальна-харэаграфічныя творы. Тут былі танцы, якія ўслаўлялі рэвалюцыйную героіку грамадзянскай вайны, радасць свабоднай мірнай працы, мовай харэаграфіі расказвалі аб мужнасці савецкіх воінаў — абаронцаў Радзімы, апявалі гісторыю свайго краю, яго прыгажосць і паэзію, дружбу народаў нашай краіны.

Нечакана парадавалі новыя танцавальныя калектывы, ансамблі песні і танца, пра якія яшчэ ўчора мы амаль нічога не ведалі. Танцавальныя групы ансамбляў песні і танца Барысаўскага гарадскога Дома культуры імя М. Горкага, Навапалацкага Палаца культуры нафтавікоў, Лідскай абутковай фабрыкі за кароткі тэрмін змаглі падрыхтаваць сур'ёзны рэпертуар, паказаць высокае выканаўчае майстэрства. Яны выступілі натхнёна, паэтычна, узяўшы многія тэмы і вобразы для сваіх танцавальных нумароў з жыцця, з чалавечага сэрца, духу.

А, між тым, выбар тэмы даўся не ўсім вопытным калектывам. Часам тэма бралася быццам і важная, але набывала няправільнае гучанне: недастаткова падрыхтаваныя выканаўцы не маглі раскрыць усе глыбіні і складанасці твора. Няўдачы на конкурсе бывалі яшчэ і таму, што не заўсёды пастаноўшчыкі мелі добрую драматургічную аснову для твора. Прыгадаем харэаграфічную кампазіцыю «Студэнты на фестывалі», паказаную танцавальным калектывам Віцебскага медыцынскага інстытута. Пад гукі ўрачыстай музыкі на сцэну, маршыруючы, выйшлі дзяўчаты і юнакі, апранутыя ў касцюмы народаў свету. Адмаршыравалі, а пасля паказалі некалькі нацыянальных танцаў, якія не мелі ніякага дачынення да развіцця тэмы, насілі дывертысментны характар. А што потым? Удзельнікі стварылі невялічкую калону і зноў пачалі маршыраваць, пакідаючы сцэну. Тэма была сама па сабе, а танцы—самі па сабе. Прычым, танцы перадавалі толькі схему рухаў, не раскрываючы нацыянальнага вобраза.

Іншы раз балетмайстры не знаходзілі выразных харэаграфічных сродкаў для раскрыцця сучаснай тэмы і звярталіся да натуралістычных прыёмаў. У танцы «Аўтазаводцы», які паказаў калектыў Палаца культуры Беларускага аўтазавода, на сцэну вынеслі бутафорскія дэталі, з якіх танцоры сабралі самазвал, а потым паехалі на ім за кулісы. У фінале танца «Будаўнікі» калектыў Дома культуры віцебскага дрэваапрацоўчага камбіната быў сабраны з фанерных канструкцый дом, у пад'езд якога ўвайшлі навасёлы і іх госці.

Нямала казусаў было і з касцюмамі. Часам яны не адпавядалі зместу і характару пастаноўкі. Напрыклад, танец на сучасную тэму, а касцюмы выканаўцаў архаічныя або настолькі «асучасненыя», што ў іх не застаецца нічога нацыянальнага.

Да многіх твораў на сучасную тэму не было спецыяльна напісанай музыкі, якая раскрывала б драматургію вобраза сучасніка. У наяўнай музычнай літаратуры амаль немагчыма знайсці творы, якія б супадалі з творчымі задумамі балетмайстраў. Таму падбор музычнага матэрыялу не заўсёды прыводзіў да добрых вынікаў.

Нялёгка далося калектывам і сцэнічнае ўвасабленне танцаў розных народаў. Многія пераадолелі цяжкасці і стварылі сапраўдныя творы мастацтва. Прывабна выглядалі беларускія народныя танцы — «Лявоніха» народнага ансамбля танца Гродзенскага Палаца культуры тэкстыльшчыкаў (пастаноўка Е. Штопа), «Купалінка» ансамбля «Дружба» Дома культуры Магілёўскай швейнай фабрыкі імя Валадарскага (пастаноўка А. Іванова), «Крыжачок» танцавальнага калектыву Дома культуры Гомельскага ўпраўлення бытавых послуг (пастаноўка Л. Іванова), «Каханачка» народнага ансамбля танца «Колас» Віцебскага раённага Дома культуры (пастаноўка заслужанага дзеяча культуры БССР А. Партнова), «Янка» — народнага ансамбля танца Дома культуры Мінскага Упраўлення бытавых паслуг (пастаноўка народнага артыста БССР С. Дрэчына). Нацыянальны каларыт адчуваўся ў рускіх танцах — «Бярозкі» народнага ансамбля песні і танца Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў, «Качачка» ансамбля танца «Дружба» Дома культуры магілёўскай швейнай фабрыкі імя Валадарскага; малдаўскіх — «Жаваранак» танцавальнага калектыву Віцебскага гарадскога Дома культуры, «Сувенір Малдавіі» — народнага ансамбля танца «Колас». Разуменне нацыянальнага вобраза, ладу добра спалучалася з танцавальнасцю і высокім выканаўчым майстэрствам.

І былі танцы «наогул», як напрыклад, «Рускі танец» калектыву Мінскага тэхнікума электрасувязі. Танец без індывідуальнага мастацкага аблічча, без сваіх стылявых асаблівасцей, арыгінальнага зместу, самабытнай манеры выканання. Такіх безаблічных танцаў было нямала. Танцамі «наогул» з'яўляліся і «Украінскі танец» танцавальнага калектыву Віцебскага педагагічнага інстытута, «Малдаўскі танец» танцавальнага калектыву мінскага завода імя С. Арджанікідзе, многія венгерскія і румынскія танцы. А між тым танцы народаў багатыя нацыянальнымі асаблівасцямі. У назве танца часта закладзены яго змест, асноўная думка. Гэтак і ў рускіх танцах — «Гусачок», «Цімоня», «Лябёдушка», «Тапатуха», «Мяцеліца», «Чыж», «Пеўні», «Ланцужок», «Варотцы», «Улітушка» і ва ўкраінскіх— «Бондар», «Шаўчык», «Зайчык», «Лісачка», «Гонты», і ў жыццярадасных, поўных запалу закарпацкіх танцах «Каламыйка», «Трапацянка», «Увіванец», малдаўскіх—«Вінаград», «Збор вінаграду», «Танец кавалёў», «Бураўчык», «Нажніцы», «Ружа», Васілёк», «Алеандра». Цікавыя па сваёй самабытнасці, разнастайныя па характары венгерскія чардашы, вербуконшы, шматлікія танцы з бутэлькамі, палкамі, падушкамі, лаўкамі...

Бывае, што танец адной назвы ў розных раёнах мае свой яркі індывідуальны характар. Напрыклад, танец «Сырба», які атрымаў шырокае распаўсюджанне ў Малдавіі і Румыніі (у свой час танец «Сырба» быў запазычаны ў сербаў), мае мноства варыянтаў. У Малдавіі бытуе «Сырба хлопцаў», «Сырба дзяўчат», «Сырба старых», «Вясельная сырба», «Сырба камароў», «Сырба ў тры малаткі» і г. д. Даследчыкі румынскага танцавальнага фальклору сцвярджаюць, што ў Румыніі існуе да 350 варыянтаў «Сырбы». Можна прывесці мноства іншых цудоўных, своеасаблівых танцаў, якія з'яўляюцца каштоўным скарбам сусветнай культуры. Танцы ж «наогул» — вялікае зло. Яны скажаюць сам характар нацыянальнай культуры. Такім танцам не месца ў рэпертуары нашай самадзейнасці.

Безумоўна, было б зусім няправільна абмяжоўвацца сцэнічнай апрацоўкай бытуючых або бытаваўшых у народзе танцаў. Неабходна ствараць новыя танцы, выкарыстоўваючы лепшыя традыцыі народнай творчасці. Асабліва трэба звярнуць увагу на стварэнне сольнага і парнага танцаў, якія ўзбагацяць рэпертуар танцавальных калектываў, унясуць разнастайнасць у канцэртныя праграмы. У конкурсе былі такія танцы, але — вельмі мала.

Не можа не выклікаць засмучэння нізкі ўзровень выступленняў танцавальных калектываў некаторых сельскіх клубаў і раённых дамоў культуры. Відаць, гэта перш за ўсё тлумачыцца тым, што ў нас яшчэ мала кваліфікаваных кіраўнікоў. Два культасветвучылішчы, пастаянныя курсы Міністэрства культуры БССР, дзе рыхтуюць кіраўнікоў танцавальных самадзейных калектываў, курсы, семінары па падрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі кіраўнікоў і іншыя мерапрыемствы, якія праводзяцца рэспубліканскім, абласнымі дамамі народнай творчасці і дамамі мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў, не могуць задаволіць узрастаючыя патрэбы мастацкай самадзейнасці ў харэографах. Адзінае ў рэспубліцы харэаграфічнае вучылішча, пры якім функцыянуе чатырохгадовае аддзяленне, якое рыхтуе кіраўнікоў танцавальных калектываў, амаль не папаўняе сваімі выпускнікамі мастацкую самадзейнасць. У асноўным яны знаходзяць месца ў прафесіянальных ансамблях танца, у тэатры оперы і балета. У некаторых вышэйшых і сярэдніх навучальных установах рэспублікі ёсць факультэты грамадскіх прафесій, на якіх многія будучыя аграномы, заатэхнікі, педагогі, урачы і іншыя спецыялісты сяла атрымліваюць другую прафесію — грамадскага кіраўніка самадзейнага танцавальнага калектыву.

Але гэтага мала. Сельскім танцавальным калектывам патрэбна пастаянная творчая дапамога. Ці не час кожнаму кіраўніку і лепшым удзельнікам прафесіянальных танцавальных калектываў узяць шэфства над сельскімі танцавальнымі калектывамі, праводзіць там заняткі — трэнаж, пастаноўку танцаў і інш? Неабходна арганізаваць сістэматычныя выступленні танцавальных калектываў гарадскіх клубных устаноў для працаўнікоў сяла, дапамагаць людзям, якія бясплатна, на грамадскіх пачатках, кіруюць сельскімі танцавальнымі калектывамі.

Танцы выхоўваюць. Як выхоўвае, абагачае духоўна песня, музыка, паэзія. Значыць, трэба развіваць, абагачаць наш беларускі танец. У яго цудоўныя традыцыі. Не менш цудоўнаю павінна быць яго будучыня.

З ПОШТЫ «ЛІМа»

насць, атрымліваць адказы на хвалюючыя пытанні». Ці верaць у магчымасць пабачыць і атрымаць гэта вучні сярэдняй школы, а любоў да мастацтва пачынаецца з маленства, бо цяпер з маленства чалавек мае магчымасць глядзець тэлевізар? Каб ён, адарваўшыся ад «блакітнага экрана», пераступіўшы парог «жывога тэатра», не палічыў гэта другарадным мастацтвам. Бо нішто не можа замяніць сустрэчы з харaством, якое нараджаецца на нашых вачах, у садружнасці з намі, калі мы чуем голас, бачым бляск у вачах і ўспрымаем самыя непасрэдныя пачуцці выканаўцы ролі... Канечне, без прапаганды непаўторнай атмасферы тэатра нельга абысціся. І тут К. Каліціна кідае папрок зноў жа ў адрас маладзёжнай прэсы (называе газету «Знамя юности»), якая мае невычэрпныя магчымасці для раскрыцця «сакрэтаў» тэатральнага мастацтва, здольных прывабіць да сябе і скептыкаў- телегледачоў.

Сярод водгукаў, атрыманых нашай рэдакцыяй, на жаль, няма пакуль што пісьмаў ад дзеячоў тэатра. Што вы думаеце аб праблеме выхавання гледача, таварышы рэжысёры, артысты, драматургі? Такое пытанне, хоць яно і не выказана адкрыта, ёсць у тых пісьмах чытачоў, якія ідуць у рэдакцыю ў адказ на артыкул А. Чарнушэвіч «Гледачамі не нараджаюцца».

З ПОШТЫ «ЛІМа»

# ПРЫКРАЯ НЕАХАЙНАСЦЬ

НЯДАЎНА выдавецтва «Ураджай» выпусціла ў свет цікавую і карысную кніжку «Помнікі прыроды Беларусі». Паколькі такія кнігі з'яўляюцца ў нас даволі рэдка, гэта выданне стане на працяглы час настольным даведнікам для шматлікіх аматараў роднай прыроды. А гэта ў сваю чаргу абавязвала аўтарскі калектыў з асаблівай добрасумленнасцю паставіцца да падбору і выкладання матэрыялу.

Знаёмячыся са зместам кнігі, мы звярнулі асаблівую ўвагу на ўсё, што датычыць Кобрынскага гарадскога парку імя Суворава. Прачыталі і былі проста здзіўлены, колькі «адкрыццяў» паднеслі нам аўтары артыкула «Садова-паркавае мастацтва» В. Анціпаў і В. Бялькоў.

Гаворачы пра мінулае парку, аўтары паведамляюць: «На месцы парку калісьці ўзвышаўся «прыгожы, велічны замак з дванаццаццю шпілямі», пабудаваны ў XII стагоддзі, а пры замку быў «адгароджаны сад з некалькімі дрэвамі сліў, груш, яблынь». Для большай пераканаўчасці спасылаюцца яны і на друкаваныя крыніцы больш чым стогадовай даўнасці.

Між іншым, месца, дзе да канца XVIII стагоддзя знаходзіўся Кобрынскі замак, вядома дакладна. Замак стаяў па меншай меры за паўтара кіламетра ад парку. Што называецца— чулі звон ды не ведаюць, дзе ён. І наогул сувязь замка з тым, што пазней стала паркам, вельмі адносная. У другой палове васемнаццатага стагоддзя ўпраўленне маёнткам «Кобрынскі Ключ» было перанесена з зусім старога к таму часу замка ў новую сядзібу «Губерня». Вось там, каля «Губерні», за паўтара кіламетра ад горада, і з'явіўся парк.

У зводнай табліцы аб парках БССР плошча нашага парку чамусьці ўказана 5 гектараў, а не 43. Калі па іншых парках указваецца, якая колькасць дрэў розных парод у іх расце, дык па Кобрынскім парку такія звесткі не даюцца, хоць наш парк не менш багаты. Кніжка аўтарытэтна сцвярджае, што парк размешчаны на паўднёва-ўсходняй ускраіне Кобрына, калі ён — на паўднёвай. Другі вадаём знаходзіцца не на паўднёва-ўсходняй, а на паўднёва-заходняй ускраіне парку. Ніколі планіроўка нашага парку не была рэгулярная і не складалася з узаемна-перпендыкулярных алей і г. д.

Мы не ўпэўнены, што гэтыя, мякка кажучы, «недакладнасці» дапушчаны толькі ў адносінах да Кобрынскага парку. Міжволі насцярожваешся, што такія ж «вольнасці» дапушчаны і па іншых парках.

Проста дзіўна, што аўтарам не прыйшла ў галаву самая простая думка — звярнуцца за самымі свежымі і верагоднымі дадзенымі не да сумніцельных друкаваных матэрыялаў, а ў Міністэрства культуры БССР, якое мае самыя вычарпальныя матэрыялы аб парках рэспублікі. Тады і не прымяшалася б «лыжка дзёгцю», якая сапсавала бочку мёду.

А. МАРТЫНАЎ,
дырэктар Кобрынскага музея імя А. В. Суворава.
Н. ВЫМАРКАЎ,
дырэктар Кобрынскага парку імя А. В. Суворава.

Тэатр

Рыгор НЯХАЙ

# РОЗДУМ АБ ЖЫЦЦІ

**«ПАМЯЦЬ СЭРЦА» А. КАРНЕЙЧУКА Ў АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ Я. КУПАЛЫ**

БЕЛАРУСКІ тэатр здавён сябруе з Аляксандрам Карнейчуком — амаль усе п'есы гэтага драматурга ставіліся на нашай сцэне. Сярод многіх якасцей яго твораў ёсць і тое, што называюць адчуваннем тэатра. Дарэмна Б. Бур'ян і Я. Рамановіч у артыкуле «З трывогай за жанр» («Літаратура і мастацтва» ад 15 мая г. г.), спаслаўшыся на выказванне У. Нямiровіча-Данчанкі пра гэтую рысу драматычнага таленту, не сказалі, што заснавальнік МХАТа меў на ўвазе якраз А. Карнейчука і цытата ўзята з артыкула, прысвечанага яго творчасці. Знаўца жыцця, ён і дасведчаны знаўца сцэны!

Лепшыя выканаўцы роляў і найбольш удалыя пастановачныя эпізоды ў спектаклі купалаўцаў «Памяць сэрца» яшчэ раз пацвердзілі гэта — іграць А. Карнейчука цікава і карысна тэатру. Цікава, бо аўтар дае багатую спажыву для роздуму і хваляванння акцёра-мастака, а карысна тым, што ў арганічнай жыццёвай праўдзе паводзін герояў раскрываюцца радасці і трывогі сучаснай рэчаіснасці. Я не тэатральны рэцэнзент, і скажу па-пісьменніцку: мяне ўзрушыў пастаўлены маладым рэжысёрам Барысам Луцэнкам спектакль «Памяць сэрца». Тэатр разумна зрабіў, калі з даверам паставіўся да п'есы і па-свойму, па-купалаўску даў рэалістычнае ўвасабленне тэм і вобразаў А. Карнейчука, не пазбягаючы такой натуральнай у яго і абгрунтаванай манеры пісьма, дзе амаль што меладрама пераходзіць у востра сатырычную сцэну, а драматызм пачуццяў змяняецца гумарам па-народнаму маляўнічых эпізодаў. Рэжысёр намагаўся даць гэтаму арганічнае адзінства, і часцей за ўсё ён дасягае мэты. Спектакль глядзіцца як цэласны расказ аб жыцці, як мастацкі роздум аб перажытым людзьмі ў вайну і ў мірныя дні.

...Дачка партызанкі Галіны Раманаўны Кацярына вывезена ў няволю, у Нямеччыну. Там яна працуе на заводзе і разам з італьянцам Антоніо Тэрачыні ўдзельнічае ў руху Супраціўлення. У агульнай барацьбе нараджаецца дружба і блізкае знаёмства. У іх ёсць сын Антон, які нядаўна закончыў інстытут, стаў інжынерам і збіраецца разам са сваімі маладымі сябрамі ехаць у Індыю на металургічны завод.

Антоніо Тэрачыні доўга шукае Кацярыну праз савецкае пасольства. І, нарэшце, знаходзіць яе ў Кіеве. Толькі на адны суткі прылятае ён з Масквы ў Кіеў, каб сустрэцца са сваёй баявой сяброўкай, разам з якой пакутваў у няволі.

Здаецца, нічога асаблівага, звычайная жыццёвая сітуацыя. Аднак у мастацтве яна гучыць як роздум аб складаным жыцці, у якое, нібы рэха, урываецца памяць сэрца. Старыя ветэраны выходзяць на пенсію, іх месца займаюць маладыя, жыццярадасныя людзі, а вайна часам усё яшчэ «ўносіць карэктывы» ў іх лёс, у іх паводзіны і перакананні.

Вось трое прадстаўнікоў старэйшага пакалення: былая партызанка злучэння Каўпака Галіна Раманаўна (артыстка С. Станюта), былы акцёр Кірыл Сяргеевіч (Б. Уладамірскі), капітан дальняга плавання (П. Пекур). Усе яны адзінокія, як кажуць, бабылі, жыццёвы шлях іх канчаецца, але яны застаюцца летуценнымі рамантыкамі, быццам ім па дваццаць гадоў. Яны мараць аб сумесным падарожжы, мараць нават яшчэ і аб сумесным жыцці. Іх любіш і ім спачуваеш. Харошыя, сапраўдныя гэта людзі! Асабліва запамінаецца вобраз Кірылы Сяргеевіча ў выкананні Б. Уладамірскага. Просты, натуральны. Здаецца, ад п'есы акцёр узяў усё, што толькі можна было ўзяць, і натуральна ўвайшоў у ролю, без фальшу, без наігранасці. Гэта чулы і добры чалавек, вясёлы і знаходлівы, але яго цяперашняе бестурботнае жыццё засмучае хвароба сябра, з якім ён у маладосці іграў Пата і Паташона. І тут дзейнічае памяць сэрца. Як далёкі ўспамін, нібы цені, — тыя самыя Пат і Паташон. Яму сардэчна спачувае гаспадыня дома, суседка Галіна Раманаўна, якая стала ўжо бабуляй і пражыла нялёгкае жыццё. Яна вяжа світэр, каб паслаць яго сябру суседа, які жыве на Поўначы. Маленькая дэталь, але як яна раскрывае характар, з такой цеплынёй сыграны таленавітай С. Станютай. Актрыса знайшла тую меру ігры, якая злівае сцэнічны вобраз з жыццёвай праўдай. Прастата і дабрата да людзей спалучаюцца ў гэтым характары.

Капітан дальняга плавання ў выкананні П. Пекура атрымаўся менш выразны. Не відаць, што гэта «стары марскі воўк», які прайшоў усе моры і акіяны. Ёсць у яго парывы паказаць сябе такім, але яны нязменна гаснуць. Чым гэта тлумачыцца, цяжка сказаць. Аднак чагосьці ў гэтым персанажы не хапае. Ён у П. Пекура не такі яркі, як іншыя вобразы прадстаўнікоў старэйшага пакалення.

Захапляе залу Антоніо Тэрачыні ў выкананні Г. Гарбука. Гэтая роля, бадай, самая цяжкая ў спектаклі. Складаная яна для акцёра ў адносінах псіхалагічнага напаўнення, а яшчэ і моўнымі асаблівасцямі. Іншаземец, які толькі ад Кацярыны Міхайлаўны і, магчыма, яшчэ па слоўніках вучыўся нашай мове, і на сцэне павінен захаваць каларыт той мяшанай мовы, якой надзелены аўтарам гэты персанаж. Артыст Г. Гарбук паспяхова справіўся з няпростай задачай. У ім адчуваецца сапраўдны іншаземец. Ён упэўнена, у рэчышчы аўтарскай характарыстыкі вядзе сваю ролю ад пачатку да канца.

Запамінаецца яго сцэна на кватэры Кацярыны Міхайлаўны. У палітычных поглядах ён сацыяліст, які хіліцца ў левы бок. Галасуе, аднак, за камуністаў. Вось уся яго ідэйная сутнасць. А якія віды на ўраджай і ці ідуць у Італіі дажджы, аб чым па-наіўнаму пытае Галіна Раманаўна, дык ён проста не ведае, што і сказаць. Ураджай яго не датычыцца, а дажджоў у Італіі мала. А чаму ён змагаўся супраць нямецкіх фашыстаў, чаму яго вывезлі ў няволю ў Нямеччыну і чаму там ён ахвяраваў сабой дзеля перамогі, — гэта ён ведае добра.

Рэжысёр вельмі ярка будуе сцэну сустрэчы Тэрачыні са сваёй сяброўкай па няволі і барацьбе. Недзе далёка са змроку, як рэха вайны, як памяць сэрца, даносіцца баявая песня італьянскіх партызан, песня Супраціўлення. Гэта ўжо кранае гледача, прымушае верыць у тое, што было і што адбываецца на сцэне. Мелодыя зліваецца з украінскай мелодыяй «Стэпам, стэпам...» Яны, зліўшыся, нібы рэкі, ператвараюцца ў своеасаблівы гімн барацьбы людзей розных народаў супраць агульнага ворага. На гэтым фоне вырастае, адцяняецца вобраз галоўнай гераіні Кацярыны Міхайлаўны. Перакрыжаваліся дзве мелодыі, як перакрыжаваўся лёс італьянца Тэрачыні і ўкраінкі Кацярыны Міхайлаўны. На гэтую ролю, здаецца, нікога іншага не падбярэш, як толькі М. Захарэвіч! Як быццам А. Карнейчук для гэтай актрысы і напісаў тэкст. Знешне сваё хваляванне ад сустрэчы з Тэрачыні яна нічым асаблівым не выказвае, затое ўнутранае хваляванне глядач адчувае на кожным кроку. Гэта ўжо майстэрства не проста артыста, а мастака. Адначасова ў жыцці Кацярыны адбываюцца дзве вельмі важныя падзеі — яна на два гады растаецца з сынам Антонам і сустракаецца з «блізкім-далёкім» чалавекам. Зразумелы яе душэўны стан. Жыў чалавек спакойна, працаваў і раптам дзве падзеі — нібы віхура... Амаль няўлоўныя змены ў душы жанчыны М. Захарэвіч перадае па-акцёрску далікатна і глыбока.

Добрым хлопцам выглядае Антон — сын Кацярыны Міхайлаўны і Тэрачыні (А. Дзянісаў). І трэба ж было яму напярэдадні ад'езду ў Індыю пасварыцца з каханай дзяўчынай Раяй (Т. Кротава)! Ну, вядома, тая не хоча, каб каханы на два гады пакідаў яе, тым больш, што бацькі гэтым каханнем не задаволены і з мяшчанскай бязлітаснасцю ўвесь час папракаюць дачку... Канечне, і сцэнічная сітуацыя тут даволі знаёмая, і ігра маладых артыстаў, на жаль, не ўзбагачае непасрэдна знойдзенымі рысамі непаўторнасці таго ж Антона і Раю. Ролі іграюцца добрасумленна, а больш нічога сказаць і не можаш. Ёсць у іх нешта «блакітнае», хоць часам А. Дзянісаў і Т. Кротава ў адпаведнасці з аўтарскай задумай паказваюць герояў у сварках і спрэчках, шумяць, «дэманструюць» тэмперамент.

Вядома, што здавацца маладым і дасціпным на сцэне не так ужо і цяжка, калі акцёр можа іграць «самога сябе» ў «прапанаваных абставінах». Гэта і робяць М. Казінін, А. Памазан, З. Зубкова і В. Анісенка, апрануўшыся ў гарнітуры Міколы, Юркі, Арысі і Івана. Застаюцца самімі сабою — дый годзе! Відаць, і рэжысёр не заастрыў увагу выканаўцаў на тым, што А. Карняйчук праз гэтыя вобразы, насуперак модным сцвярджэнням, нібыта моладзь у нас «сапсаваная», паказвае яе такой, якой яна ёсць на самай справе, — парывістай, вясёлай, вернай свайму грамадзянскаму абавязку. Яна пераняла лепшыя рысы сваіх бацькоў.

Сярод маладых артыстаў, на маю думку, цікава працуе Р. Дамброўская, якая выконвае ролю Наташы і вылучаецца жывасцю, натуральнасцю ігры. Астатнія аднагодкі Наташы на сцэне зліваюцца ў адну масу і іх цяжка адрозніць адзін ад аднаго. Таму, мабыць, у сцэне развітальнай вечарынкі ў рэстаране ярчэй за ўсіх выглядае безыменны п'яненькі мужчына, які ўсіх прымае за «дэлегацыю» і хваліцца, што працуе ў нейкім міністэрстве. Яго кардэбалеты і п'янае заіканне выклікаюць смех і нейкае дзіўнаватае спачуванне. Адзін толькі штрых, калі ён падараваў Наташы кветкі, а потым, даведаўшыся, што гэта «не дэлегаты», адабраў іх, робіць яго вобраз не карыкатурным, а жывым. Ролю гэтую выконвае не без поспеху артыст А. Луцэвіч. У яго ігры ўлоўліваеш нешта тонка ўзятае ад незабыўнага Глеба Паўлавіча Глебава. І гэта добра, прыемна, бачыць такое на сцэне купалаўцаў. Магчыма, я памыляюся ў сваіх меркаваннях, але мне здаецца, што гэта так: быць і ў другараднай ролі па-майстэрску дакладным — гэта добра!

Дзея спектакля адбываецца ў Кіеве, у адной кватэры, пачынаецца і заканчваецца на працягу адных сутак. Гэта, канечне, класічны прыём драматурга. Але тут напрошваецца пытанне — ці ўдалося тэатру перадаць украінскі, я сказаў бы, кіеўскі каларыт? Так, калі б нават недзе на небасхіле не зіхацелі залатыя макаўкі Сафіі, усё роўна, гледзячы спектакль, адчуваеш сябе ў Кіеве, недзе паміж плошчай імя Багдана Хмяльніцкага і Уладзімірскай Горкай. Тут удала спалучылася музыка Марата Качана з мастацкім афармленнем мастака Барыса Герлавана. Гудкі параходаў на Дняпры — гэта ужо Кіеў. Прывабная лірычная песня, што даносіцца кароткай летняй ноччу аднекуль з Уладзімірскай, дзе так любіць гуляць кіеўская моладзь, — гэта таксама Кіеў. Адным словам, і музыкай, і мастацкім афармленнем кіеўскі каларыт перададзены ў лірычных тонах і з добрым густам. Калі я глядзеў, правільней, слухаў тую сцэну, дзе Антон і Антоніо не могуць заснуць да раніцы і збіраюцца ісці спяваць серэнаду каханай Антона, мне здалося, што я сапраўды ў Кіеве, што я «гутару» з Аляксандрам Карнейчуком.

Спектакль набывае мастацкую завершанасць. Мы знаёмімся з героямі, якім ёсць аб чым задумацца самім, праверыць сваё жыццё «памяццю сэрца» і патрабавальна ацаніць зробленае. Пададзеныя са сцэны як у пэўным сэнсе тыповыя характары, яны маюць права на ўвагу гледача, здольнага «падхапіць эстафету» роздуму і даць ацэнку сваім поглядам і ўчынкам. Некаторыя «блакітныя» мясціны, як я казаў, мабыць, яшчэ знойдуць больш маляўнічую і грунтоўную афарбоўку, тады спектакль пазбавіцца налёту павярхоўнасці і банальнасці, якія ляжыць на асобных эпізодах і ролях. Прынамсі, я адчуў, што «Памяць сэрца» будзе і павінна развівацца ў такім напрамку. А лепшае застанецца і замацуецца.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

нае пра пенсіянераў, дык толькі для таго, каб «выкарыстаць» для сустрэчы з моладдзю, каб паслухаць іх расказы пра былое.

Выключэнне — адзін, бадай, гарадскі Дом настаўніка. Тут ветэраны педагагічнай працы ў пашане. З настаўнікаў-пенсіянераў тут створаны вялікі хор, які з поспехам выступае на ўсіх аглядах. У штомесячных планах работы Дома шмат месца адводзіцца масавым мерапрыемствам — тэматычным вечарам, дыскусіям, сустрэчам, рабоце шматлікіх прыкладных гурткоў і г. д. Але Дом настаўніка, паўтараю, выключэнне.

Да вайны ў Бабруйску было менш клубаў. Але тады быў спецыяльны клуб для пенсіянераў-інвалідаў. Цяпер яго няма, у тым памяшканні размяшчаецца клуб работнікаў гандлю. Не маюць свайго сталага памяшкання гарадскі савет ветэранаў рэвалюцыйнай і працоўнай славы, гарадскі савет ветэранаў вайны, савет садзеяння гарсабесу — грамадскія арганізацыі, якія аб'ядноўваюць пенсіянераў горада і клапоцяцца аб іх. Яны туляцца ў падсуседзях, а калі трэба правесці для ветэранаў якое мерапрыемства, літаральна выклянчваюць памяшканне ў тым ці іншым клубе. Не дзіўна, што ахвотнікаў праводзіць такія мерапрыемствы становіцца ўсё менен.

М. БЯРЭЗІНСКІ,

# ПОМНІК ТРЭБА АДНАВІЦЬ

**Зусім нядаўна праязджаў я праз гарадскі пасёлак Свіслач. Шафёр папутнага самазвала, спрытны, кірпаты хлопец, спыніўся нечакана ля сквера, выйшаў з кабіны, патыцкаў ботам у колы і спытаў мяне, матнуўшы галавой у бок вось гэтага (першы здымак) манумента:**



**— Бачыце?..**

**— Бачу!..**

**—Помнік Эдуарду Малафееву, га?..—зарагатаў ён.**

**А маю ўвагу прыцягнуў пастамент. Быў ён надта ж непадобны на сучасны—з добрага каменю, пасівелы, аброслы мохам...**

**— А што было на месцы гэтага «спарцмэна?»—спытаў я.**

**— Хто яго ведае!.. — Шафёр яшчэ раз тыцнуў ботам у кола і палез у кабіну.—Паехалі...**

**Я ўсё ж дазнаўся, што за помнік стаяў на гэтым пастаменце раней...**

**У 1928 годзе на грошы, сабраныя сярод жыхароў Свіслачы і навакольных вёсак па праекце настаўніка малявання і чарчэння Свіслацкай семінарыі Ігнація Бяляка быў пабудаваны помнік паплечніку і сябру Кастуся Каліноўскага, генералу паўстанцкай арміі, герою абароны Севастопаля Рамуальду Траўгуту, які быў закатаваны пасля падаўлення паўстання ў Варшаўскай цытадэлі.**

**У 1940 годзе ад помніка застаўся толькі пастамент. Бронзавая дошка з партрэтам Траўгута, бронзавы арол, які раскінуў крылы на шары, што вянчаў пастамент, і лічбы з датамі жыцця Траўгута доўга валяліся на зямлі, а потым і яны некуды зніклі.**

**У час Вялікай Айчыннай вайны адна з дывізій польскага войска, створанага на савецкай зямлі пры дапамозе савецкага народа, насіла імя Рамуальда Траўгута. Для салдат гэтай дывізіі імя Траўгута было сімвалам брацтва савецкага і польскага народаў, сімвалам барацьбы супраць агульнага ворага за вызваленне савецкага і польскага народаў.**

**А ў 1949 годзе на пастамент-сірату паставілі гэтага хлопца з мячом. Так і стаіць ён насупраць гарадской бальніцы, у памяшканні якой некалі была гімназія, дзе вучыўся Рамуальд Траўгут, слаўны наш зямляк.**



Такім быў помнік Рамуальду Траўгуту.

**Ці не час аднавіць помнік чалавеку, які аддаў жыццё за свабоду і шчасце простага люду?**

**Д. МАСЛАЎ,**
**мастак.**

# ДВА АРБЕНІНЫ

**НАРОДНЫ АРТЫСТ БССР Р. ЯНКОЎСКІ Ў «МАСКАРАДЗЕ» Ў РУСКІМ ТЭАТРЫ БССР**



У ПЕРШЫНЮ Р. Янкоўскі выступіў у ролі Арбеніна чатыры гады назад. Тады Арбенін амаль на ўсім працягу першага акта быў спакойны і паблажліва ўпэўнены. Зараз ужо з першай мінуты—безрадасная трывога «бродзіць» унутры яго, гоніць яго няведама куды і навошта. Ён і «сёння» шчаслівы. Гордая пяшчота праступае праз усю яго іронію, калі ён гаворыць Казарыну, што «заняты любоўю». Калі ён вучыць Звездзіча прыёмам любоўнай інтрыжкі і выслухоўвае яго прызнанні, Арбенін па прывычцы цынічны. На самай справе ён шкадуе князя: маўляў, адкуль табе ведаць, хлопчык, што гэта такое — жанчына, шчасце, каханне...

Калі з'яўляецца Ніна, ён спрабуе вытрымаць да канца «мужчынскі» паблажлівы тон, але, забыўшыся, механічна пагладжвае ручкі крэсла, як калі б гладзіў яе руку. Крыніца трывогі цяперашняга Арбеніна ў тым, што ён шчаслівы. Як бы ранейшы Арбенін ні пагарджаў светам, па-за гэтым асяроддзем ён — рыба на сушы. Яму патрэбна публіка, каб паказаць ёй вастрыню свайго розуму, сваёй мовы і каб пагарджаць гэтымі людзьмі. Зараз яму ўсё роўна — слухаюць яго ці не.

Учынкі Арбеніна ўсё больш пацвярджаюць, што ён неспакойны. Калісьці ён ратаваў Звездзіча проста так, ад добрага настрою, з Невядомым абыходзіўся, як з назойлівым, вульгарным блазнам. Не ўстрывожыўся ён нават тады, калі ўбачыў бранзалет у руках князя і пачуў яго расказ. Ён прыдзірліва, як ацэншчык у ламбардзе, узважваў акалічнасці і рабіў заключэнне, што Ніны тут быць не магло,—значыць, няма прычын хвалявацца. Зараз ён ратуе Звездзіча, нібы хоча ўлешчыць лёс. У яго размове з Невядомым цяпер няма і следу былой спакойнай фанабэрыі, ён глядзіць на бранзалет, як на гадзюку. А потым гоніць ад сябе сваю першую думку з сорамам і страхам.

Сапраўдны сэнс неспакою Арбеніна раскрываецца, калі ён чакае Ніну. Раней Р. Янкоўскага ў гэтых эпізодах забаўляла і кранала, што яго Арбеніну даводзіцца чакаць жонку, што ён мусіць быць цярплівым і лагодным. Сёння — сядзіць у крэсле, прыжмурыўшы вочы. Ён не толькі пакутліва кахае Ніну, але і верыць ёй. Гэта вера і ёсць прычына яго неспакою, разладу ў яго душы. Чым больш ён шчаслівы і чым больш верыць у Ніну, тым больш мучыць яго страшэнная несумяшчальнасць двух галасоў — веры і вопыту, розуму і пачуцця.

Ранейшы Арбенін Р. Янкоўскага быў (прынамсі, здаваўся сам сабе) шулерам, які трымаў банк у гульні з жыццём. Ён хацеў пабудаваць і зберагчы свой персанальны рай. Арбенін цяперашні — ігрок, які амаль супраць волі сваёй паставіў усё на адну карту ў ігры, дзе жыццё — банкаўшчык. Застаецца толькі чакаць...

Даведаўшыся, што Ніна была на маскарадзе і не бачачы на яе руцэ бранзалета, ранейшы Арбенін адразу вырашыў, што яму здрадзілі. Яму не патрэбны былі доказы і абвяржэнні. Ён хацеў прымусіць Ніну прызнацца —сагнуць яе, раздушыць, кінуць сабе пад ногі. Ён нават адкрыта фіглярнічаў.

Цяпер герою Р. Янкоўскага не да фіглярства. Ён не сумняваецца, што Ніна яму здрадзіла. Але яму вельмі хочацца, каб яна хоць на словах абвергла, пераканала яго. Урэшце — каб з крыкам гора (абавязкова з крыкам!) прызналася ва ўсім: тады можна будзе сказаць, што гэта быў лёс, ураган, самум, усё прайшло і больш не паўторыцца...

Далей, аж да фінальнай сцэны, ранейшы Арбенін усё больш упадабляўся Яга. Ён пераставаў быць эгаістам у звычайным сэнсе гэтага слова: ён не шкадаваў нікога, нават сябе. Ён распраўляўся з Нінай і Звездзічам таму, што так хацеў, і ў той жа час таму, што так патрабаваў закон «за зуб — два зубы». Гэта «пакорлівасць» ката антычалавечым законам давала яму магчымасць адчуваць сябе звышчалавекам.

У цяперашнім Арбеніне з другога акту таксама абуджаецца кат, але яму даводзіцца весці ўнутраную барацьбу з самім сабой. Насуперак яго, Арбеніна, эгаізму, яго філасофіі «мне отмщение и аз воздам», нешта ўнутры яго, вышэйшае за розум, хоча, каб ён пашкадаваў Ніну і нават Звездзіча.

Ранейшы Арбенін не чапаў Звездзіча толькі таму, што простае забойства для яго было помстай вельмі лёгкай, гуманнай—проста помстай, а не сцвярджэннем перавагі. Ён не быў здзіўлены, ён не быў абураны, не быў нават усхваляваны — ён віртуозна разыгрываў спектакль...

Сёння ў доме Звездзіча Арбенін як бы вымушаны распаляць сябе. Калі ён застаецца адзін і лёгка можа прыкончыць князя, не думка аб недастатковасці такой кары і яе прымітыўнасці спыняе яго. Нешта настолькі моцнае стрымлівае яго, што ён гатовы абвінаваціць сябе ў слабасці, у баязлівасці — толькі б не зрабіць тое, дзеля чаго прыйшоў... Гэтыя ваганні і слабасць (у каторы раз!) прымушаюць запытацца: а што, калі ён сапраўды маладушны, калі яго не хапае нават на сярэдняй рукі трагедыю, калі ён проста Грушніцкі ў ролі Пячорына, калі ўсё гэта «маскарад»?!

Сцэна з баранесай, якая прыйшла да Звездзіча,—адказ на ўсе гэтыя пытанні. Даведаўшыся, хто перад ім, Арбенін сапраўды здзіўлены, няхай на адно імгненне. Потым яго раптам захлынае такая хваля спачування да баранесы, болю, крыўды, горычы за яе, што ён забывае (няхай ненадоўга) аб сабе, сваім болі, крыўдзе і горычы. Здзіўляцца і нават спачуваць мог бы і Грушніцкі. А вось забывацца на сябе — на гэта здольны толькі вялікі, моцны, схільны да актыўнага дзеяння чалавек. Чалавечнасць Арбеніна (ды яшчэ ў такую хвіліну) нечаканая і для нас, і для яго самога.

Ці можна сказаць, што цяпер Р. Янкоўскі ідзе толькі ў глыбіню вобраза, робячыся цалкам творчым саюзнікам М. Лермантава? Шуканні мастака часам выглядаюць празмерна ілюстрацыйнымі да «тэзіса» пра забойцу, які паставіў сябе вышэй закона сумлення. У сцэне смерці Ніны Арбенін цяпер бязлітасны — і толькі. На прэм'еры яго бязлітаснасць была саркастычнай, у ёй нешта трыумфальнае — так ганарліва гучала ў ёй пераможнае самасцвярджэнне. Зараз Р. Янкоўскі, напэўна, адчувае, што такая трактоўка ўступіла б у супярэчнасць з тым, іншым вобразам, які ён стварае, і артыст прыглушае ранейшую яркасць і гучнасць фарбаў. У ім то праступае нейкі неспакой, то прарываецца нецярпенне — «хоць бы ўсё гэта хутчэй закончылася», то з'яўляецца стома і атупленне пачуццяў. Асноўны ж каларыт, агульнае ўражанне істотна не мяняюцца: як і на прэм'еры, ён застаецца чалавекам, цалкам занятым сваім каштоўным «я». Толькі стваральнік вобраза можа вырашыць, які будзе яго далейшы шлях у гэтай ролі. Але думаецца, што новы Арбенін павінен быць «заняты» Нінай больш, чым сабой. Можа ён і зараз павінен чакаць? Чакаць — а ці не абудзіцца ў Ніны перад абліччам смерці раскаянне? Чакаць — насуперак усяму...

Да з'яўлення Невядомага Арбенін быццам знемагае ад жадання таксама памерці за Нінай. Ён аўтаматычна рухаецца, гаворыць. Але варта ўслухацца ў гэтыя манатонныя інтанацыі, нераадолець дзіўнасць гэтых «несупадзенняў» паміж паўзамі і лагічным сэнсам слоў—і ўражанне мяняецца. Гэты Арбенін ужо не зусім нармальны, але важна не гэта, а чаму ён такі? Таму, што ўсё хістаецца, ён больш ні ў чым не ўпэўнены: ні ў вінаватасці Ніны, ні ў тым, што меў нейкае права караць, нават калі яна на самай справе была б вінавата. Са з'яўлення Невядомага Р. Янкоўскі іграе тое ж і гэтак, як на прэм'еры, хіба што ўносіць у самы фінал элемент надрыву. І тое, што было арганічна і пераканаўча раней, ніяк не «стыкуецца» з новым малюнкам ролі. Арбенін, якога іграе зараз Янкоўскі, можа звяр'яцець толькі таму, што ўбачыў сябе забойцам. Але разам з сабой ён убачыў забойцамі Невядомага, баранесу, Звездзіча, усё грамадства, усё тое жыццё, якое пераканала яго ў спрадвечнай сапсаванасці людзей, у эгаізме «я». Нам здаецца, што Р. Янкоўскі мог бы паказаць, што яго Арбенін наблізіўся да «бунту», хай сабе і з вялікім спазненнем, але да «бунту» супраць свету, які так выкрышталізаваў яго ж уласнае чалавечае «я».

І зараз гэты вобраз — выдатная работа акцёра. Але мы, гледачы, патрабавальныя: чым больш атрымліваем, тым больш хочам. Чатыры гады назад акцёр падарыў нам Арбеніна, за якога былі ўдзячны яму. Праўда, пры ўсёй яркасці і значнасці канцэпцыі, яна тады была быццам «нацягнута» на вобраз звонку, як стальны гарсэт. Цяпер вобраз стаў глыбейшы, больш складаны, чалавечнейшы. Тое, што можна назваць канцэпцыяй, прарастае знутры тэксту і з натуры артыста.

**У. РУДАЎ,**
**К. ХАДЗЕЕЎ.**

---



# УСПЛЁСКІ ШЧЫРЫХ ПАРЫВАННЯЎ

Першае ўражанне ад ігры Алены Рынковіч — яна жыве на сцэне арганічна і натуральна. Ніколі не заўважыш «белых нітак» акцёрскай тэхнікі гэтай выканаўцы «вялікіх» і «маленькіх» роляў.

Яшчэ такі тонкі знаўца душы артыста, выдатны акцёр Дзмітрый Арлоў заўважыў, што ў вобразе Кацюшы Маславай («Уваскрэсенне» Л. Талстога) Рынковіч «лірычная і мяккая». Двума словамі ён вызначыў адну з галоўных рысаў, уласцівых многім вобразам, створаным Аленай Васільеўнай.

У «Традыцыйным зборы» яна іграе Лідзію Бялову. Немаладая, стомленая жанчына сустракае блізкага яшчэ з маладосці чалавека. З пяшчотай углядаецца Ліда ў вочы і мілыя рысы Максіма. З ім яна мерылася будаваць сваё шчасце. У інтанацыях артысткі, у яе голасе, ва ўсёй постаці— цеплыня пачуцця, не растрачанага за гады. Надзвычай светлая гэтая сціплая жанчына. Яна з тых, з кім заўсёды лёгка і цікава, проста і надзейна. Няма ў вобразе крыклівай дэкламацыі. Унутрана ўсё апраўдана. Артыстка «піша» яго сонечнай акварэллю.

Вобраз Бяловай можна вырашаць па-рознаму. Артыстка магла зрабіць лейтматывам ролі «ўвяданне», страту свежасці пачуцця і тужліва-сумную пакорлівасць перад няўмольным лёсам. А. Рынковіч абрала іншы шлях: яна сыграла вернасць пачуццю.

Па выканаўчай манеры вобраз Бяловай блізкі артыстычнаму вобразу Кацярыны («У мяцеліцу»). Глыбокі душэўны боль Кацярыны, растрывожанае сэрца, якое нельга супакоіць, і ціхі ўнутраны пратэст супраць агіднага ў жыцці...

Пакуты гераіні перададзены Рынковіч стрымана, без падкрэслена-надакучлівай вонкавай кідкасці. Форма вобраза ў артысткі заўсёды дакладная (рухі, міміка, жэсты). Яна не дамінуе, а гарманічна зліваецца з гераіняй.

Гераіні Рынковіч разнастайныя і, нават, нечаканыя. Яе Клава з «Лявоніхі на арбіце» і жонка Яраша з «Сэрца на далоні» — зусім не такія, як тыя, аб якіх мы толькі што гаварылі.

Этычнае і жыццёвае крэда Клавы — «папрацую ўмеру, пагуляю ўдосталь». Яе эстэтычны густ выяўляецца ў тым, каб ногі не запэцкаць «гноем» і каб рукі былі, як у стыляжнай «модніцы», без мазалёў. Артыстка іграе без націску, хаця вобраз набывае пэўнае сатырычнае гучанне. Паступова выяўляе артыстка «зерне» ролі. Перад намі — душэўна спустошаная жанчына, якая ў сваёй мяшчанскай абмежаванасці не ўмее адрозніць сапраўдныя каштоўнасці ад уяўных.

А. Рынковіч — артыстка з разнастайнай мастацкай палітрай, у якой і сакавітыя, сонечныя фарбы, і ўмельства «адкрываць» сумненні, трывогі, незадавальненне гераінь сваім лёсам. Да іх яна ставіцца, як добры і чулы чалавек, які хоча дапамагчы ім пераадолець ваганні, знайсці сваю дарогу ў жыцці.

А ці можна іграць Кацюшу Маславу «лірычнай і мяккай»? Так, можна. Гераіня Талстога знявечана ілжывай мараллю. Але сэрца яе адкрыта для праўды і хараства. Кацюша — Рынковіч не пакараецца лёсу, не мірыцца з брудам агіднага, нясцерпнага існавання. Толькі артыстка перадае свой пратэст не актыўна, а стрымана, ціха, з бясконцай горыччу. Яе Маслава нават у найбольш вострых, драматычных сітуацыях не траціць гонару і прывабнасці рускай жанчыны.

Гераіня рамана іранічна, з пагардай ставіцца да «пакаяння» Нехлюдава. Артысткі часта іграюць гэтую сцэну рэзка, востра, даводзячы Кацюшу да гнеўнага сарказму. Рынковіч і тут не «выпадае» з абранага ёю плана сцэнічнага ўвасаблення вобраза.

Некаторыя крытыкі дакаралі Рынковіч за тое, што яе Вышнеўская з «Даходнага месца» не грацыёзная, выконваецца не ў звыклым стылі. Але гэта не загана, а пошукі «свайго» вобраза. Няроўны шлюб, усведамленне таго, што муж — царскі чыноўнік, прайдзісвет, хабарнік — прыводзяць Вышнеўскую да расчаравання ў яе сціплых, але сумленных жыццёвых ідэалах. Яна не бачыць выйсця з цяжкага становішча, у якое трапіла. Ці адчуваецца гэта ў сцэнічным вобразе? Так. Магчыма, што трагічнасць лёсу Ганны Паўлаўны перададзена не прасталінейна, яна нясе гэтую трагедыйнасць у другім плане. Гераіня Рынковіч не здольна горача змагацца за сваю праўду.

Артыстка шукала ў вобразе ўласныя акцэнты. І знайшла іх, адпаведна са сваёй творчай індывідуальнасцю.

Крытыка мела падставу дакараць рэжысуру спектакля «Апошняя ахвяра» ў пэўнай плакатнасці, аднапланавасці і мастацкай збедненасці камедыйных персанажаў, абмежаванні іх «антуражнай» функцыяй. Гэта сапраўды так. І ўсё ж А. Рынковіч, верная сваім прынцыпам і густу, імкнулася прыўзняцца над кволасцю творчай задачы, якая перад ёй была пастаўлена рэжысурай.

У незайздроснай ролі, якая нададзена цётцы Юліі Тугінай у «Апошняй ахвяры», Рынковіч знаходзіць сваё «зерне» — яна дамагаецца даверлівасці Юліі і Фрола Прыбыткова падкрэсленай мяккасцю інтанацыі. Яна зусім шчыра спрабуе пераканаць іх у высакароднасці намераў інтрыганкі і зводніцы, прагнай прыжывалкі. Зразумела, цяжка знайсці прынцыпова новае вырашэнне «службовага» персанажа ў інтрызе камедыі. Але пакарае здольнасць Рынковіч да пераўвасаблення, самабытнага рэалістычнага «почырку».

А. Рынковіч не пагарджае і «маленькімі» ролямі. Яна — дастойны прадстаўнік ансамбля купалаўскага тэатра. У тэатральнай студыі, якую артыстка скончыла, яе вучылі Я. Міровіч, Л. Літвінаў, В. Галіна, Л. Рахленка — выдатныя майстры сцэны. Тут, у студыі, у будучай заслужанай артысткі рэспублікі выхавалі пачуццё ансамбля, умельства ўзаемадзейнічаць з партнёрамі, сціпласць і працавітасць. Яна жыве на сцэне «жыццём чалавечага духу», не супрацьпастаўляе сваё разуменне гераіні «звышзадачы» спектакля. Рэжысёрам лёгка працаваць з Рынковіч, якая пазбаўлена эгацэнтрызму, самаўлюбёнасці, умее крытычна ставіцца да таго, што робіць.

Апошнія творчыя ўдачы — Бялова і Глафіра Фірсаўна — гавораць аб шырокіх магчымасцях Алены Рынковіч і аб тым, што яна знаходзіцца ў добрай акцёрскай форме.

**М. МОДЭЛЬ.**

Яраслаў ПАРХУТА

# ЗОСЯ

*Лірычная аповесць*





**I.**

Здаецца, яшчэ ўчора на клёнах была лістота звычайнай — зялёнай, з ледзь прыкметнай барвінкай у тонкіх пражылках. А сёння—дзіва! Яна, тая лістота, страціла свой спакойны колер і набыла больш трывожны—амаль што крывава-чырвоны. І пражылкі на кожным лістку гарэлі набрынялымі бурачковымі венамі...

Сяргей Пятровіч расчыніў акно, паглядзеў уніз, і на сэрцы стала самотна: за ноч лістапад укрыў дол залацістым, шорсткім дыванам.

— І мы старэем,—уздыхнуў Сяргей Пятровіч і, здзіўлены такім нечаканым прызнаннем, азірнуўся, нібы спалохаўся, што яго можа хто-небудзь пачуць.

Але ў пакоі ён быў адзін. Па-ранейшаму на стале грувасціліся стосы кніг і падручнікаў. Трэба было яшчэ ўчора ўсё ўпакаваць, аднесці на пошту і адаслаць дадому. Але ён не зрабіў нават і спробы. І ўсё з-за той нечаканай сустрэчы...

**II.**

...Больш-менш уладкаваўшы свае сталічныя справы, Сяргей Пятровіч вырашыў крыху адпачыць ад дзённых турбот, прайсціся па горадзе, падыхаць свежым паветрам. Паволі крочыў праспектам, як нечакана яго аклікнуў жаночы голас:

— Сяргей! Хвілін пяць іду за табой і думаю: ты гэта ці не ты?

Глянуў на жанчыну і не паверыў сваім вачам. Перад ім стаяла яна, Зося. Здзіўлены гэткай нечаканасцю, не мог знайсціся, што сказаць. А яна ніколечкі не збянтэжылася, весела загаварыла:

— Колькі год, Сярожа! Колькі год!..

Ён стрымана адказаў:

— Гадоў дваццаць, мабыць...

Яны стаялі на тратуары, замінаючы іншым.

— Мо адыдземся крыху?..—сказала Зося.

Цяпер ужо можна было гаварыць без перашкод, і Зося то распытвала яго, то расказвала аб сабе. А ён—больш слухаў яе, чым гаварыў. У ім нібы змагаліся два чалавекі. Адзін—сталы і разважлівы, помнячы тое даўняе, крыўднае, хацеў спаслацца на занятасць, развітацца і пайсці сваёй дарогай, другі—шчыры і даверлівы, як некалі, хацеў распытваць, распытваць... Але калі Зося дастала з сумачкі фотакартку, з якой пазіраў юнак, як дзве кроплі вады падобны на Хамяка, Сяргей Пятровіч сказаў, нават нечакана для сябе:

— Прабач. Я павінен ісці...

Але ні па дарозе ў гасцініцу, ні ў гасцінічным пакоі не мог пазбавіцца тае неадчэпнай узрушанасці. Не пакінула яна яго праз увесь доўгі вечар. Хадзіў узад-уперад, смаліў цыгарэту за цыгарэтай і думаў: «Няўжо гады не сцерлі таго, што было некалі? Няўжо я кахаю яе?..»

**III.**

...Як кінакадры, усплылі тыя далёкія дні, якіх не выкінеш з жыцця, якія не-не і напомняць аб сабе сваёй бязлітаснай праўдай.

Усю школу прывялі тады да ракі, дзе будавалася калгасная электрастанцыя. Разбілі на групы. У кожнай—адзін хлопец і чатыры дзяўчыны. Ім, дзесяцікласнікам, даверылі самую складаную справу—рабіць абшыўку плаціны. Абавязкі ў групе размеркавала Зося. Яна сказала:

— Мы будзем вазіць дзёран, а ты прышывай яго калочкамі да землянога насыпу.

І ён прышываў. А дзяўчаты вазілі. Узвальвалі дзве-тры дзярніны на тачку і напераменкі кацілі тую тачку перад сабой па хісткім дашчаным насціле туды, дзе, укленчыўшы, працаваў Сяргей.

Спачатку ён моўчкі рабіў сваю справу і не думаў, што цягаць тачкі—не дзявочая работа. А калі Зося, зрабіўшы чарговы рэйс, на хвіліну спынілася ля Сяргея, стомленая і расчырванелая, яму стала раптам сорамна.

— Слухай!—усхапіўся ён.—Давай памяняемся! Ты—забівай, а я—вазіць буду...

І Сяргей, каб неяк згладзіць сваю віну перад дзяўчатамі, не даваў ім нават узяцца за тачку. А яны ад няма чаго рабіць неўзабаве разбегліся па квяцістым лузе. Хто куды.

— От стракозы!—сказала Зося.—Што дзеці!..

Сяргей бачыў, як загарэліся каштанавым агнём Зосіны вялікія вочы, і яму захацелася раптам сказаць ёй што-небудзь незвычайнае, чаго не гаварыў яшчэ нікому.

— Зося...

А яна паднялася з зялёнай дзярніны, і,нібы ў прадчуванні якой бяды, прашаптала:

— Не трэба... Сярожа...

Ды ён ужо не слухаў яе:

— Я табе... во які ахапак язьміну нарву!.. Як будзем ісці дадому...

— Язьміну?—з палёгкай уздыхнула Зося. — Я люблю... язьмін...

Толькі язьміну Сяргей так і не нарваў у той дзень.

Заставалася ўкласці некалькі дзярнін. Але ўжо не было пад рукою нарыхтаваных. І ён вырашыў нарэзаць іх на бліжэйшым грудку.

Помніць Сяргей, як лапата бразнула аб нешта цвёрдае. Бразнула невымоўна гулка. І ў гэты момант рвануўся вогненны слуп зямлі, аглушыў, асляпіў вочы. І Сяргей патануў у цемры, у невядомасці.

**IV.**

...Не, яго ніхто не будзіў. Неяк сама па сабе, паволі пачала вяртацца дрыготкая свядомасць. А разам з ёю—і боль. Боль ва ўсім целе. Нясцерпны, востры. Хацеў падняць руку, каб пакратаць забінтаваны твар, але рука не слухалася яго.

Як малатком стукала ў скронях: тук-тук! тук-тук! «Сэрца,—падумаў Сяргей.—Гэта маё сэрца...» Ляжаў і слухаў стук свайго сэрца, баючыся варухнуцца. Здавалася, прайшла цэлая вечнасць, пакуль сабраўся з сіламі і прашаптаў засмяглымі губамі:

— Дзе я?..

Пачуўся далёкі-далёкі, але да драбніц знаёмы голас:

— Сярожанька! Міленькі! Табе нельга размаўляць. Супакойся...

— Зо-ося?—перасільваючы боль, запытаў Сяргей і зноў праваліўся ў чорнае бяздонне.

**V.**

...Назаўтра, здаецца, ці днём пазней, Сяргей зноў пачуў Зосін голас, але не такі ўжо трывожны—весялейшы, з прыкметнымі ноткамі бадзёрасці. Яна сядзела ля яго ложка і супакойвала:

— Галоўнае, Сярожа, што вочы засталіся. Хірург гаварыў, асколкаў сорак дасталі. Але ты не адчайвайся... Усё будзе добра...

Хоць ён адчуваў сябе лепш, але па-ранейшаму смылела ўсё цела: і грудзі, і рукі, і ногі. А галава была нібы чужой, нібы на яе ўзвалілі неверагодны цяжар і ён прыціскаў яе да ложка, не даючы магчымасці хоць крыху ўзняць з падушкі. Да таго ж былі забінтаваны вочы.

**VI.**

Ішоў час. З кожным днём Сяргей адчуваў сябе ўсё лепш і лепш. Раны ад асколкаў тае праклятае міны, што столькі год, затаіўшыся, праляжала пад дзёрнам на прырэчным грудку, паволі зажывалі. Можна ўжо было крыху пахадзіць, і Сяргей радаваўся кожнай такой магчымасці, адчуваючы, як вяртаецца да яго былая сіла.

І вось аднойчы прыйшла сястра і павяла Сяргея з палаты. Кудысьці доўга ішлі, кагосьці чакалі. Потым яго пасадзілі ў крэсла і асцярожна знялі павязку.

— Ну, як? — ціха спытаў нехта.

Сяргей маўчаў. З цемрадзі нясмела, нібы здалёк, стала прабівацца ледзь прыкметная шэрань. Яна гэтак жа ледзь прыкметна расла, святлела і, нарэшце, пачалі праяўляцца контуры пакойчыка. А калі з невялікага акенца palілося вясёлае і такое жаданае святло, Сяргей ад хвалявання і радасці крыкнуў:

— Доктар! Я бачу вас, доктар!..

Але радасць была заўчаснай.

**VII.**

Ён гэта зразумеў, калі знялі швы. Зірнуў у люстэрка і спалохаўся не на жарты: увесь твар быў пакрамсаны чырвонымі пісягамі. Асабліва страшным быў шрам, што спаўзаў па шчацэ ад правага брыва наўскасяк да падбародка. Сіні, шырокі, ён, здавалася, рассякаў твар і рабіў яго не то злым, не то смяшлівым.

Сяргей сцяў зубы і ў першы раз падумаў: каб хоць не прыйшла Зося.

Але яна ўзяла і прыйшла. І прыйшла не адна, а з усім былым дзесятым, з класным кіраўніком, з кветкамі і падарункамі... Уляцела і крыкнула з парога:

— Сярожа! Віншую! З атэстатам сталасці!..

Сказала і асеклася. Доўга глядзела на яго, нібы не верачы таму, што ўбачыла, падышла бліжэй, утаропілася цёмнымі вачыма ў яго твар і не вытрымала—кінулася скрозь прыцішаны гурт і знікла за дзвярыма.

Сяргей ляжаў, як нежывы. Ён не чуў, што гаварылі сябры, што гаварыў настаўнік, калі той уручаў яму атэстат сталасці, не адчуваў, здаецца, і поціску іх рук.

**VIII.**

...Яму не шанцавала з самага маленства. Рана памёрла маці, яшчэ перад вайной, пакінуўшы яго, падшыванца, адзін на адзін з бацькам.

А тут — фашысцкая навала. Бацька стаў партызанам, а Сяргей перайшоў жыць у суседнюю вёску да бацькавай сястры.

У цёткі пяцёра сваіх ратоў, і пракарміць іх у дні ліхалецця было не так лёгка. Але неяк жылі, перакідаліся з бульбы на квас, радуючыся, што фашысты толькі час ад часу, ды і то ненадоўга, наведвалі іхнюю вёску — баяліся гэтага глухогаляснога кутка.

Часам заходзіў бацька, прыносіў які-небудзь гасцінец — ці то акраец хлеба, ці кавалачак сала, загорнуты ў зрэбную анучку, і супакойваў:

— Усё перамелецца! І на нашай вуліцы будзе свята!..

А перад самым прыходам сваіх яго не стала. Помніць Сяргей: раніцою нехта ўляцеў у хату і загаласіў:

— За вёскаю... у жыце... партызан забіты!..

Бегла тады цётка з дзятвой і прыгаворвала:

— Няўжо гэта мой? Няўжо мой?..

А Сяргей, калі ўбачыў яго, распластанага ля палявой дарогі, сярод паламаных сцяблін жыта і пажоўклай валошкі, анямеў...

**IX.**

У першую ж пасляваенную восень цётка павезла Сяргея ў райцэнтр і ўладкавала ў дзіцячы дом. Сяргей не крыўдаваў на яе: дзядзька ж вярнуўся з вайны інвалідам, і лішні чалавек у сям'і многа значыў у той час. Да таго ж у дзетдоме і кармілі, і апраналі, і можна было працягваць перарваную вайной вучобу.

У тым сіроцкім доме Сяргей упершыню і сустрэў Зосю.

Зося была здольнай, акуратнай вучаніцай. Але неяк старанілася і чужых, і сваіх. Была негаваркой. Толькі пазней яна ўсё часцей і часцей рабілася сама сабой. І ў такія хвіліны яе вочы, як два спелыя каштаны, гарэлі вясёлым, іскрыстым агнём. І Сяргей міжволі любаваўся гэтымі вялікімі, дзіўнымі вачыма. Адна акалічнасць іх зрабіла, здаецца, сапраўднымі сябрамі.

Гэта было ў дзевятым класе. У выхадны дзень яны дамовіліся схадзіць у кіно. І калі пасля вячэры ўзялі кірунак у бок даўжэзнага барака, што служыў тады гараджанам раённым Домам культу-

ры, іх запыніў аднакласнік па мянушцы Хамяк — маленькі, з пляскатай, нібы прышчэмленай дзвярыма, галавой. Калі ён што-небудзь жаваў, а рабіў гэта нават у сне, то запіхаў за шчокі, здаецца, цалюткі бохан. І яны раздуваліся, як мячыкі...

Запыніўшы Сяргея і Зосю сярод дарогі, гэты Хамяк ні з таго, ні з сяго прашамкаў:

— У кіно пойдзеш са мною, а не з гэтым...

— Чаму? — здзівіўся Сяргей.

— Бо мне... так хочацца, — Хамяк пагражальна надзьмуў свае мячыкі-шчокі і працягнуў у бок Сяргея руку. — Аддай білет...

Сяргей не стрываў і ўляпіў яму аплявуху. Хамяк ад нечаканасці адскочыў і нарабіў ляманту:

— Байструк! Хуліган! Ты мяне ўспомніш яшчэ! — закрычаў ён і кінуўся ў бок галоўнага корпуса.

— Скардзіцца пабег, — сказала Зося і засмяялася. — А ты малайчына, Сярога!..

### X.

...Найвялікшай пакутай для Сяргея былі ночы, калі заставаўся адзін па адзін са сваімі думкамі. У галаву тады лезла чорт ведае што, не давала спакою.

А ў тую ноч ён нават не змаргнуў вокам, да раніцы прастаяў ля акна. І толькі тады вярнуўся да рэчаіснасці, калі раніца ўскаціла на пагорак, што ўзвышаўся за бальнічным гарадком, гарачае сонца. Яно, тое сонца, аж зайшлося праменнямі, мяккімі, як рукі немаўляткі. І Сяргей чамусьці абрадаваўся, падстаўляў тым промням-далоням твар і ўсміхаўся, адчуваючы на сабе іх пяшчотную цеплыню.

Гэтак радаваліся і яны з Зосяю, калі, парушыўшы правілы дзятдомаўскага жыцця, пабеглі яшчэ зацемкам на бераг ракі, каб першымі сустрэць нараджэнне новага дня. Сядзелі на мурожнай траве, накрыўшыся Сяргеевым пінжаком, і чакалі сонца. А калі яно наліло зосіны вочы густым золатам, яна, зачараваная, сказала:

— Усё жыццё вось так пражыць бы...

### XI.

«А што сёння скажа? І ці прыйдзе?» — падумаў Сяргей.

Зося прыйшла. Пад вечар. Не ўляцела, як у той раз, у палату, а зайшла, асцярожна стала ля дзвярэй, нібы чаго баючыся.

— Сяргей! — ледзь чутна сказала яна. — Я развітацца... Еду ў інстытут...

Як ён разумеў Зосю ў той дзень! Помніць, падумаў тады: «Чаму тая праклятая міна не напавал...» І адвярнуўся, каб не бачыла яго ўстрывожанага знявечанага твару. Толькі праз хвіліну прамовіў:

— Шчаслівай дарогі, Зося...

### XII.

Спачатку Сяргей прымушаў выкінуць з галавы ўсё, што было хоць крыху звязана з Зосіным імем. Але — не мог. Не-не — і перад ім з'яўляліся каштаны яе вачэй, чуў яе голас. І Сяргею рабілася не па сабе, быццам адчуваў якую віну перад ёй. І пачынаў дакараць сябе. «Не, думаў ён, яна паехала не назаўсёды. Яна прыедзе! Хоць і не піша... Прыедзе!..»

Гады ішлі, а Зося не прыязджала. Сяргей завочна закончыў інстытут, стаў працаваць. Спачатку настаўнікам, потым — дырэктарам. У той школе, дзе некалі яны вучыліся. Прызнацца, згубіў было ўжо надзею, што калі-небудзь сустрэне яе. І вось...

І вось аднойчы ён стаў сведкам таго, аб чым не мог нават падумаць.

Было тое ў час летніх канікулаў. Адвячоркам Сяргей Пятровіч сядзеў з вудамі крыху ніжэй плаціны колішняй калгаснай гідрастанцыі. Надакучыла важдацца з акунямі, збіраўся падацца ўжо дадому, але нечакана пачуў галасы. Двое стаялі на масце, абапёршыся на парэнчы, і размаўлялі. Жанчына сказала:

— Жора! А ты помніш, як мы будавалі гэтую плаціну?..

— А то не! — адказаў мужчына і дадаў. — Тады яшчэ... як яго... Сяргей, здаецца... па дурноце сваёй падарваўся.

Памаўчалі. Потым зноў парушыў вячэрнюю цішыню глухаваты голас:

— Хадзем, Зося! А то заўтра на аўтобус рана...

Яны спусціліся ўніз і сцежкаю пайшлі ў бок гарадка. Уперадзе — Хамяк, а за ім — Зося.

...Сяргей Пятровіч прычыніў акно, падышоў да стала і пачаў перабіраць набытыя ўчора кнігі.

А за акном, у клёнах, не пераставала палыхаць восень...

## ЗДЫМАЮЦЬ фотааматары



Нарадзіўся я ў Нясвіжы ў чэрвені 1947 года. Па-сапраўднаму пачаў займацца фатаграфіяй у 1965 годзе, калі паступіў у Мінскае прафтэхвучылішча № 32. Некаторы час працаваў у Нясвіжскай райгазеце «Чырвоны сцяг». Як і ўсе мае аднагодкі, у 1966 годзе апрануў вайсковую форму. Але фотаапарат быў са мною заўсёды.

Цяпер працую ў Мінску на чыгунцы.

Юрый ЗАХАРАЎ.



Святланка.



Вячэрняя мелодыя.



У ваколіцах.



Сустрэча са сталасцю.



Цішыня.

# ЛЕС-БАЦЮХНА

Спрадвеку славілася наша Беларусь харастовом і багаццем лясных скарбаў — золатаствольных, смалістых сасновых бароў, цёмных ельнікаў, маляўнічых серабрыстых беразнякоў, славутых палескіх дуброў. Яшчэ ў 1922 годзе вядомы савецкі лесавод прафесар М. Ткачэнка адзначаў у сваіх навуковых працах, што «...лепшыя дубовыя насаджэнні ёсць у Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай губернях. Паўднёвыя паветы Мінскай губерні маюць дубовыя насаджэнні, якія па якасці з'яўляюцца аднымі з самых лепшых у Расіі». Высока была ацэнена якасць палескіх дубовых кражаў яшчэ на першай Сусветнай прамысловай выстаўцы ў Парыжы.

Шматлікія назвы вёсак і пасёлкаў—Дубровы, Цёмны Лес, Ясень, Баравуха, Пушча, Сасноўка, Бараўляны, Ельск, Наваельня, Альхоўка, Лясная, Залессе, Бярозаўка, Зубры, Дубровы Ручай, Мядзвежына, Дубіца і многія іншыя—гавораць аб тым магутным царстве лесу, якім была, ёсць і будзе наша родная рэспубліка.

У СССР на душу насельніцтва ў сярэднім даводзіцца 4,2 га лясной плошчы. Гэта намнога больш, чым у іншых краінах свету. Па забяспечанасці лесам на душу насельніцтва СССР саступае толькі Канадзе, дзе на кожнага жыхара даводзіцца 24,4 га і Фінляндыі (5,3 га).

У Беларусі ў сярэднім на аднаго жыхара даводзіцца 0,81 га лесу. Найбольш багатая лясамі Гомельская вобласць, на аднаго жыхара якой даводзіцца 1,1 га лясной плошчы. Параўнаўча вялікія і лясныя масівы Міншчыны, дзе лясістасць дасягае 36 працэнтаў. Аднак зялёныя разлівы беларускіх лясоў размешчаны ў БССР вельмі нераўнамерна. Так, калі раёны Палескай нізіны яшчэ адносна лясістыя, дык у Гродзенскай вобласці лесу ўсяго 22 працэнты. Тут на аднаго жыхара прыпадае самая малая плошча лясной нівы—0,45 га. Буйныя лясныя масівы ёсць на поўначы рэспублікі, але затое зусім бязлесныя раёны паблізу Віцебска і Оршы.

Цяпер лясы Беларусі ўяўляюць сабой у асноўным маладнякі і сярэднеўзроставыя насаджэнні. Спелых дрэвастояў, прыгодных для эксплуатацыі, вельмі мала, а перастойных і дрымучых лясоў амаль зусім няма. Хіба толькі ў глухіх запаведных месцах можна знайсці карціну, падобную на дзівосную «Раніцу ў сасновым лесе» І. Шышкіна. І хоць лясная плошча ў БССР займае каля 8 мільёнаў гектараў, што, прыкладна, роўна тэрыторыям такіх дзяржаў, як Данія і Бельгія разам узятых, нельга забываць аб збядненні прыроднай зялёнай кладоўкі, аб скарачэнні памераў смарагдавага мора, аб сумных песнях белакрылых бяроз, соснаў, спалоханых дрыготкіх асін. Нашы лясы і пушчы моцна пацярпелі ў суровыя гады жорсткай вайны.

Паступова мяняецца склад беларускіх лясоў. Знікаюць памалу клёны, ліпы, ясені, дзікія яблыні і грушы. Прыкметна скараціліся плошчы велічных дуброў, вільготных ельнікаў, звонкіх сасновых бароў. У Ельскім, Калінкавіцкім, Даманавіцкім, Жыткавіцкім і некаторых іншых лясгасах запасаў спелых насаджэнняў засталося літаральна на 2—3 гады рубкі.

Аднак раслінны свет рэспублікі не бяднее. На тэрыторыі Беларусі растуць у лясах 25 розных драўнінных парод, 40 відаў кустарнікаў і 15 відаў паўкустарнікаў. Асноўнымі лесаўтваральнікамі з'яўляюцца: сасна звычайная або лясная, елка звычайная або высокая, бярозы барадаўчатая і пушыстая, асіна, алешыны чорная і белая, дуб чарэшчаты. Разводзяцца ў лясах, на лесакультурных плошчах і розныя іншаземныя пароды: арэх маньчжурскі, дуб чырвоны, лістоўніца сібірская, таполя канадская, бархат амурскі, сасна Мурэя і інш.

Некаторыя выключна каштоўныя лясныя масівы аб'яўлены помнікамі прыроды і ахоўваюцца дзяржавай. Да іх ліку адносяцца: рэдкія па прыгажосці і каштоўнасці чыстыя дубровы ў Борацкім лясніцтве Івацэвіцкага лясгаса, у Язненскім лясніцтве Дзісненскага лясгаса, у Вепрынскім лясніцтве Чэрыкаўскага лясгаса і унікальнае насаджэнне дубоў, асін і елак ва ўрочышчы «Воступ» Лідскага лясгаса. Гэтыя дрэвастоі ўяўляюць сабой вялікую каштоўнасць як расліныя супольніцтвы, іх трэба старанна і ўсебакова даследаваць з мэтай выяўлення асаблівасцей і ўласцівасцей узаемадзеяння драўнінных парод у лесе.

На тэрыторыі БССР выдзелены і ахоўваюцца дзяржавай некалькі вельмі каштоўных участкаў чыстых і змешаных унікальных сасновых насаджэнняў: з сасны звычайнай, лістоўніцы сібірскай і сасны веймутавай у Немкаўскім лясніцтве Бабруйскага лясгаса, з лістоўніцы, сасны і дуба чарэшчатага ва Урэцкім лясніцтве Слуцкага лясгаса, з сасны крымскай, сасны звычайнай і сасны горнай у Вінклораўскім лясніцтве Клецкага лясгаса.

Прыгожая наша Беларусь! Добрыя, светлыя, спакойныя, велічныя рэкі, шматлікія раўнінныя і ўзгоркавыя пейзажы і колькі б ні глядзеў — не нагледзішся, не налюбуешся на шырокія прасторы палёў, бязмежныя разлівы смарагдавых лугоў, сінеючыя далі зубчастых цудоўных лясоў.

Г. МАРГАЙЛІК

джана жывёла, людзі не хочуць ісці на работу. Ёсць жа для гэтага шырма: варожыя падкопы. Затое ён прымае бяздумна ўсе загады зверху, выканае раней за іншых «першую запаведзь», арганізуе пільную ахову ўраджаю, умее, як ніхто, сустрэць пачальства, заўсёды прызнае свае памылкі, паабяцае адразу ж выправіць («як сказаў таварыш Сталін, на памылках мы вучымся»).

Мароз у прынцыпе кіруе раёнам так, як Журавінка калгасам. Раён павінен быць перадавым — і ўсё! Любымі сродкамі. Канечне, ён разумнейшы за Журавінку, больш гнуткі ва ўзаемаадносінах з іншымі людзьмі, дзесьці ў глыбіні душы больш сумленны. Відавочна, у нечым самым істотным час яго зрабіў такім. Пазней, зняты з пасады сакратара райкома, апынуўшыся па-за сферай уздзеяння пrasталінейных адміністрацыйных сіл, Мароз пачынае бачыць, дзе праўда, становіцца сумленным чалавекам.

Спачатку Шэмету лёгка было перамагчы не толькі Журавінку, але і Мароза. За ім было жыццё, яго логіка і практыка. Ды і здаваліся яны напачатку з'явай выпадковай, асобнай. Праўда, і тут патрэбна была падтрымка Лаўрыновіча.

Потым Шэмета адрывае ад зямлі сіла, вытлумачыць якую ён, па сутнасці, не можа, грубая, непадуладная ніякай логіцы, ніякаму сэнсу. У яе былі якіясьці свае законы, далёкія ад законаў нармальнага чалавекабыцця. З такою сілай, калі на яе працуе час, змагацца цяжка.

Лобан гістарычна праўдзівы ў паказе паражэння свайго галоўнага героя. Хаця ўсё, што ў канцы рамана здараецца з ім, успрымаецца, як страшная недарэчнасць, нейкае непаразуменне.

Сцэна пасяджэння бюро райкома, дзе Шэмета знімаюць з пасады сакратара райкома і выключаюць з партыі, адна з найбольш драматычных, псіхалагічна насычаных, багатых зместам сцэн. Сцэна найбольш важная ў вытлумачэнні ўсёй недарэчнасці і зласлівай фатальнасці таго, што адбываецца. На пытанне Шэмета, ці можна чым-небудзь даказаць тыя абвінавачанні, якія на яго ўзвальваюць, сакратар акружкома адказвае: «Усё, аб чым я зараз гавару, не патрабуе доказаў, усё гэта ўжо даўно даказана. Вам не ўдасца выкруціцца ад партыйнай адказнасці!» Але не гэта самае горшае. Страшней тое, як сама атмасфера штучнага абвастрэння класавай барацьбы ўплывае на людзей. Пры галасаванні за выключэнне Шэмета нават такія сумленныя людзі, як старшыні калгасаў Бадыгчык і Клім Рубчэня, якіх у свой час той падтрымаў і якія не вераць ні ў адно з абвінавачванняў, усё ж галасуюць не так, як ім падказвае сумленне...

Вобраз Гаварушкі сваёй жыццёвай пераканаўчасцю, магчыма, уступае толькі вобразу галоўнага героя. Гаварушка—фігура для таго часу найбольш страшная і небяспечная. Гэта чалавек, у якога ў жыцці няма нічога святога, які ідзе ў дасягненні мэты на падхалімства, падглядванне, падслухоўванне, пляткарніцтва, хлусню, подласць. Ён у чымсьці самым істотным сфармаваны ўмовамі адарванасці ад жыцця, беспрынцыпнасці, алілуйшчыны, паклёпаў і фразёрства, узняты імі на хвалю.

Раман канчаецца падзеямі выключна драматычнымі. Шэмета арыштоўваюць, жонку яго, «ворага народа», звальняюць з выкладчыцкай работы, высяляюць з кватэры, яна адчувае недабразычлівыя адносіны большасці тых, што раней адносіліся да яе вельмі добра. Але ў чытача твор не пакідае настрою песімізму і бесперспектыўнасці. Усёй логікай падзей, логікай развіцця і ўзаемадзеяння характараў пісьменнік пераконвае ў жыццёвай і маральна-этычнай праўдзе Шэмета. Яна даказана гістарычным вопытам, асвечана сучаснасцю. Моцны гуманістычны пафас рамана народжаны сапраўды партыйнымі адносінамі мастака да жыцця, рэальнай верай і ўпэўненасцю ў непераможнасць, велічнасць і чалавечнасць ленінскіх ідэй.

Серафім АНДРАЮК.

---

тысячы партызан, што трапілі ў акружэнне, хвалюе не толькі душу чытача-дзіцяці, але і любога дарослага.

На шматлікіх фактах даказваецца высакароднасць савецкіх людзей, сапраўдных рыцараў дабра і справядлівасці, і бесчалавечнасць, подласць і гнюснасць азвярэлых ад нацысцкай прапаганды і крыві гітлераўцаў.

Справядлівую нянавісць выклікаюць у нас такія вылюдкі, як крывавы карнік-паліцай Юрась Цапок, уласавец Даноўскі, эсэсаўцы Зэйдліц і Шылер. Бадай, адным з самых высокіх па драматычным і псіхалагічным напале падзей уяўляецца сутыкненне Рыгора Вайцёнка (старога, партызанскага разведчыка і сувязнога) з Цапком. У ход ідзе ўсё: розум, хітрасць, назіральнасць, смеласць. Стаўка ў гэтай барацьбе для Рыгора — не толькі ўласнае жыццё, але і жыццё разведчыкаў, якія даверыліся яму, ад якіх, у сваю чаргу, залежыць лёс тысяч людзей. Рыгор перамагае ў, здавалася б, безвыходным становішчы.

Вобразы Рыгора Вайцёнка, Скакуна, Крамнёва, Мюлера і некаторыя іншыя раскрыты з дастатковай глыбінёй і выразнасцю. Але, зразумела, не ўсё ўдалося пісьменніку перадаць дакладна і пераканаўча. Вельмі слаба, напрыклад, абгрунтаваны дзеянні, учынкі і змены ў жыццёвай пазіцыі Язэпа Дубінца. Забіты, нясмелы чалавек, які мала разважаў на працягу ўсяго свайго жыцця, заўсёды плыў па волі хваляў і выпадку, Язэп зусім нечакана мяняецца пад уплывам аднаго толькі з'яўлення Скакуна і нават робіць адчайныя па храбрасці ўчынкі. Гэта здаецца неверагодным паваротам у яговым характары, не пераконвае, выглядае надуманым, штучным ходам. А граф Паўзуновіч-Валькоўскі — вось ужо яўна меладраматычны злодзей, маральны і фізічны вырадак, гарбун, «чалавек-павук». Думаецца, што і без «рамантычных» атрыбутаў ён быў бы не менш агідным, затое больш жыццёвым тыпам.

Сказаўшы аб гэтых мастацкіх недаглядах аўтара, усё ж нельга не адзначыць удачу Алеся Шашкова, які выйшаў да юнага чытача з добрай аповесцю.

М. СТАЛЯРОЎ.

# ТОЕ, ШТО Ў СЭРЦЫ

Не так даўно на паліцах кніжных магазінаў з'явіўся зборнік Аркадзя Пінчука «Многа-мала».

Большасць яго апавяданняў падкупляе жаданнем як мага глыбей зазірнуць у таямніцы чалавечай душы, закрануць яе чуйныя струны. Героі апавяданняў А. Пінчука— юнакі нашых дзён, савецкія воіны, адметнымі рысамі якіх з'яўляюцца закаханасць у жыццё, настойлівы пошук свайго месца ў ім. Аўтар не імкнецца паказаць нешта незвычайнае ў армейскім побыце, а шукае і знаходзіць цікавае ў паўсядзённых клопатах сваіх герояў.

Пачынаецца зборнік апавяданнем «Кветкі не завянуць».

«Ёсць сярод палескіх балот і лясоў невялікае сяло з прыгожай назвай Васількі. Кожны год я прыязджаю сюды на адпачынак. І кожны год прыходжу на могілкі, каб наведаць таго, каму я абавязаны вельмі многім».

Герой апавядання, былы вясковы хлопчык, восенню 1943 года, у дзень, калі Чырвоная Армія вызваліла Васількі, пазнаёміўся з лейтэнантам — камандзірам узвода разведчыкаў. Яны адразу ж пасябравалі і ўвечары, перад тым, як заснуць, доўга размаўлялі між сабою:

— Раскажы што-небудзь. Толькі самае цікавае!

— Самае цікавае?

— Ага...

— Ну, слухай. Ёсць у мяне меншы брат. Васькам завуць. Трошкі старэйшы за цябе, гады на тры. Ды вось мы з ім аднойчы залезлі да суседзяў у сад. Перад вайною гэта было...

— Не-е, гэта нецікава...—расчаравана кажу я. — Што-небудзь ваеннае. Па садах я і сам лазіць умею.

— Эх, служба! — уздыхнуў лейтэнант. — На вайне мала цікавага. Цяжкая штука вайна...

Лейтэнант Канаплін гіне, ратуючы ад смерці хлопчыка. І вось каторы год той прыходзіць на магілу свайго старэйшага сябра-героя, каб у маўклівай цішы пабыць разам з ім...

Звяртае на сябе ўвагу апавяданне «Пятро Пятровіч». Жартаўлівы і гарэзлівы салдат Арэф'еў, які ў час дажджу выняў з супрацьгазу шкло, каб лепей бачыць мішэні, і «разбіраўся» за гэты ўчынак на камсамольскім сходзе. Разам з тым ў Арэф'еву мы бачым не толькі парушальніка армейскай дысцыпліны, а і мужнага юнака, які, рызыкуючы сваім жыццём, ідзе на дапамогу людзям: у адказны момант кідаецца ў затоплены дом і выратоўвае двух дзяцей і іх бацьку. Герой невялічкага апавядання «Перавал» Іван Галавахін не шкадуе жыцця дзеля таго, каб не даць магчымасці фашыстам авалодаць дзотам, які закрывае шлях да перавала.

У апавяданнях «Заінелыя правады», «Многа-мала», «Запрашэнне на «Лебядзінае возера» і іншых узнімаецца адвечная тэма сяброўства і кахання. Героі гэтых апавяданняў, юнакі і дзяўчаты, перадаюць чытачу часцінку сваіх трывог і надзей, пошукаў і здзяйсненняў. І нібы звяртаюцца да яго з парадай. Па-чалавечы шкада дзівака Алеся з апавядання «Многа-мала», сержанта Каёткіна з «Буду верыць», радасна за Лену (апавяданне «Запрашэнне на «Лебядзінае возера»), якая ўрэшце зразумела, чаго ёй не хапае ў жыцці.

У зборніку не вельмі многа апавяданняў, але трэба адзначыць, што напісаны яны шчыра, добра перадаюць стан чалавечай душы, якая цягнецца да людзей, хоча падзяліцца з імі сваімі сумненнем і роздумам, горам і радасцю. Многія апавяданні вызначаюцца дакладнасцю ў выбары сродкаў. Мяркую, што зборнік А. Пінчука «Многа-мала» прыйдзецца да спадобы чытачам.

В. ШАХАНЦОЎ,
студэнт БДУ імя Ул. І. Леніна.

Аркадзь Пінчук. «Многа-мала». Апавяданні. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.

---

# БАРОДЗІЦКІЯ ЦЯНЕТЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

— Мяне абвінавачвалі за тое, што прымушаў сына хадзіць на малітоўныя сходы, — цэдзіць праз зубы Іван Шугала, — не хацеў бы, не хадзіў. Вось наша старэйшая дачка раней хадзіла, а пасля выйшла замуж і перастала. Не ўдзельнічае, і не трэба...

Падманлівая пакорлівасць. Мяркуючы па дакументах, з якімі давялося мне пазнаёміцца ў судовай справе, раскольнікі вядуць актыўную вярбоўку новых членаў секты, не спыняючыся ні перад падманам, падтасоўкай фактаў, фальсіфікацыяй. Я бачыў фотакартку, зробленую спосабам фотамантажу, на якой паказаны пабіты да крыві чалавек з бібліяй у руках. Подпіс пад фатаграфіяй сведчыць пра тое, што гэта быццам бы адна з «ахвяр» расправы атэістаў над веруючымі. Правакацыя чыстай вады. Я ўжо не кажу аб дзесятках «вершаў» пра пакуты веруючых у Савецкім Саюзе, пра тое, што «братам» і «сёстрам» трэба трымацца разам і не шкадаваць жыцця для «праўды Хрыстовай»... Дэкламаваць гэтыя «творы» звычайна даручалася дзецям.

Могуць спытаць, а куды глядзіць наша грамадскасць? У тых жа Бародзічах шмат інтэлігенцыі — настаўнікі, спецыялісты сельскай гаспадаркі, медработнікі. Сіла. А пра раённы цэнтр Зэльву і казаць няма чаго.

Але не будзем спяшацца з абвінавачваннем мясцовых прапагандыстаў. Узровень атэістычнай прапаганды тут, думаю, не горшы, чым у іншых месцах. У аддзяленні таварыства «Веды» я прагледзеў тэматыку лекцый, дакладаў, вечароў, прысвечаных антырэлігійнай прапагандзе. Усё, як мае быць: «Ці існаваў Ісус Хрыстос?», «Адкуль паходзяць святы вялікадня і каляд?», «Рэакцыйная сутнасць рэлігіі» і г. д. і да т. п. Тут праведзены вечар, там прачытана лекцыя. Прысутнічала столькі і столькі чалавек...

Няма ў справаздачах толькі тлумачэння, што гэта за людзі. Але не трэба быць вялікім празарліўцам, каб здагадацца, што яны не веруючыя. Веруючыя ж, прынамсі, баптысты, у клуб не ходзяць, газет не чытаюць, радыё не слухаюць, тэлевізар не глядзяць. Атрымліваецца, што, фігуральна кажучы, лекі прымаюць здаровыя.

Дадамо яшчэ, што «лекі» гэтыя часам не высокай якасці. Мне давялося слухаць атэістычныя лекцыі і ў вялікіх гарадах, і ў вясковых клубах. Калі ў горадзе, дзе выступае, скажам, навуковы работнік, усё выглядае больш-менш салідна— цікавыя факты, навукова абгрунтаваная аргументацыя (хаця, бывае, і не вельмі зразумелая непадрыхтаванаму слухачу), дык у вёсцы часта такая лекцыя зводзіцца да пераліку агульнавядомых фактаў, што зямля круглая, што зямля круціцца вакол сонца, што зоркі— гэта планеты і г. д. Ну, а наконт бога, дык яго няма, таму што не можа такога быць. Маўляў, як ён там трымаецца на небе? Савецкія ж касманаўты лёталі вакол зямлі і «нікога там не бачылі». Нічога не скажаш — дасціпна.

Мне ўспамінаецца адна нядаўняя карэспандэнцыя ў «Известиях», дзе, між іншым, гаворыцца, што амерыканскі касманаўт Армстронг, які першы з зямлян ступіў на Месяц, па дарозе туды цытаваў кавалкі са Свяшчэннага пісання. Так што ўсё намнога складаней.

Часта слова «рэлігія» ў нас асацыіруецца з выразам «бабульчыны казкі». Мы забываем, што царква ў апошні час, улічваючы і вялікія навуковыя адкрыцці, і сацыяльна-палітычныя змены ў свеце, імкнецца прыстасавацца да ўсяго гэтага. А хітрасці, гібкасці, ёй не пазычаць.

Мы атэісты. Упэўненыя ў сваёй праўдзе атэісты. Але ці здольны кожны з нас адстаяць гэтую праўду?

Помню, некалькі гадоў назад у рабочым поездзе Мінск — Стаўбцы часта ездзіў аднавокі мужчына гадоў трыццаці. Толькі поезд кранаў з месца, як ён вымаў невялікую кніжыцу з залатым крыжыкам на вокладцы і пачынаў гучна чытаць псалмы.

Большасць пасажыраў, а ехалі звычайна адны і тыя ж людзі, лічыла яго ненармальным. Але аднойчы да яго падселі двое маладых людзей (пасля даведаўся, што яны — настаўнікі) і пачалі з аднавокім дыскусію.

Я прыслухаўся і хутка стала мне сорамна за гэтых інтэлігентных хлопцаў. Яны проста не ведалі прадмету гаворкі. Іх спосаб весці дыскусію, нагадаў мне славутую сцэнку з «Залатога цяляці». Помніце, як Астап Бендар выручаў вадзіцеля «Антылопы гну» Адама Казлевіча, якога ачмурылі ксяндзы? «Бога няма,— сказаў Бендар, —гэта медыцынскі факт». Казлевіч быў так уражаны гэтым аргументам, што тут жа апынуўся ў абдымках камандора.

Аднавокі прапаведнік, умела падбіраючы цытаты з біблії, а біблію ён, відаць, ведаў назубок, хутка загнаў сваіх апанентаў у кут. Адбылося гэта на вачах усіх пасажыраў, якія ўважліва сачылі за дыскусіяй.

Прайшло некалькі месяцаў, і аднойчы я ўбачыў каля аднавокага двух дзяўчат, якія прагна слухалі яго...

Вось і тая ж мілая настаўніца Юлія Іванаўна Панкевіч, якая была маім гідам у Бародзічах. Яна член школьнага агіткалектыву, выступае і на атэістычныя тэмы. І вось у хаце баптысткі Шугала Юлія Іванаўна пачынае агітаваць яе. Як кажуць, у лоб. Бога няма, дый годзе. І я бачу, як цямнее твар жанчыны, як замыкаецца яна ў сабе.

Мне хочацца прыйсці на дапамогу настаўніцы, Дзякуй богу, чытаў «Біблейскія сказанні» Касідоўскага — вельмі цікавая кніга. Пачынаю расказваць пра кнігу і бачу, што гаспадыня хаты з цікавасцю слухае. Так, вось і так — гэтыя і гэтыя мясціны ў біблії, як лічаць вучоныя, маюць гістарычную аснову. Жанчына ўключаецца ў гаворку. Біблію яна ведае напамяць.

Дыскусіі, дыскусіі... Кажуць, у першыя гады Савецкай улады былі вельмі папулярныя публічныя дыскусіі з царкоўнікамі. Яны давалі вялікі эфект у атэістычным выхаванні. Чаму б нам зараз не практыкаваць падобнае?

Я ад'язджаў з Бародзічаў яркім вясновым днём. Вакол быў самы сучасны антураж — недзе тахкаў трактар, па небе праплыў самалёт, па вуліцы ішоў атрад піянераў. І не хацелася думаць, што тут, побач, у адным з дамоў, за шчыльна закрытымі вокнамі спяваюць: «Ах, если б вид Его мучений на сердце врезался моем...»

Не хацелася думаць... А трэба, абавязкова, трэба.

г. п. Зэльва.

---

# «ЧАПАЕВА» РЭДАГУЕ П. М. ЛЕПЯШЫНСКІ

Аднойчы да намесніка камісіі па гісторыі Камуністычнай партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі Панцеляймона Мікалаевіча Лепяшынскага зайшоў былы камісар легендарнай Чапаеўскай дывізіі Дзмітрый Фурманаў. У руках у яго была тоўстая папка — рукапіс кнігі «Чапаеў». Фурманаў расказаў Панцеляймону Мікалаевічу, з якой непрыязнасцю была сустрэта яго першая кніга ў некаторых выдавецтвах і часопісах. Ён прынёс сваю кнігу на суд саратніка У. І. Леніна, кіраўніка выдавецтва Гістпарта.

Панцеляймон Мікалаевіч узяў рукапіс дамоў. Паводле ўспамінаў Вольгі Панцеляймонаўны — дачкі Лепяшынскага, рукапіс вельмі зацікавіў яе бацьку. Прайшло некалькі дзён, і Панцеляймон Мікалаевіч сказаў сваёй жонцы і дачцы: «Кніга яшчэ недастаткова дапрацавана кампазіцыйна, рассыпаецца сям-там на часткі, але, калі яе добра адрэдагаваць, дапамагчы аўтару, будзе выдатны твор. Бо ў кожным радку адчуваеш, што чалавек ён наш, сапраўдны камісар і таленавіты пісьменнік. Трэба яму памагчы...»

Мінула некалькі месяцаў. Выдавецтва Гістпарта выпусціла ў свет цяпер вядомую ўсяму свету кнігу Д. Фурманава «Чапаеў». На адным з першых нумароў кнігі аўтар напісаў: «Глыбокапаважанаму Панцеляймону Мікалаевічу Лепяшынскаму, чыя рука па-сяброўску, беражліва і любоўна прайшлася па «Чапаеве» і ліквідавала добрую палавіну яго недахопаў. Вашай дапамогі я не забуду ніколі. Дзмітрый Фурманаў. 16 сакавіка 1923 года».

Некалькі гадоў назад аўтару гэтай нататкі ўдалося знайсці ў хатнім архіве дачкі Лепяшынскага Бібісары Панцеляймонаўны экземпляр «Чапаева» з гэтым надпісам.

Для нас, землякоў П. М. Лепяшынскага, было прыемна даведацца, што яшчэ адзін з першых экземпляраў гэтага выдання кнігі Дзмітрыя Фурманава быў у бібліятэцы Уладзіміра Ільіча.

М. МЕЛЬНІКАЎ,
дырэктар Крычаўскага краязнаўчага музея.

**А**ЎТАР гэтых паэтычных навел—настаўнік, які вось ужо чацвёрты дзесятак год працуе ў школе свайго роднага сяла. Васіль Сухамлінскі—дырэктар сярэдняй школы сяла Паўлыш Кіраваградскай вобласці на Украіне.

Нам прыемна, што яго ўдалы дэбют у мастацкай прозе адбыўся ў нас, на старонках дзіцячага часопіса «Вясёлка».

Васіль Аляксандравіч не мог не напробаваць свае сілы у нялёгкім жанры апавядання пра дзяцей і для дзяцей, таму што прызванне педагога, увесь яго найбагацейшы вопыт, яго тонкае адчуванне паэзіі маленства, глыбокае пранікненне ў псіхалогію, у душэўны свет дзіцяці сталі грамадзянскім подзвігам яго жыцця, самаадданым, самаахвярным служэннем нашай запаветнай будучыні—дзецям.

Васіль Сухамлінскі ідзе ў мастацкую прозу, ужо дасканала распрацаваўшы і абагуліўшы сваю творчую практыку, свае навуковыя перакананні ў многіх грунтоўных даследаваннях. Летась выйшла з друку яго кніга «Сэрца аддаю дзецям», якая стала значнай падзеяй у сучаснай савецкай педагогіцы і атрымала высокую ацэнку грамадскасці.

Шчодрае, цудоўнае сэрца ў гэтага чалавека! Дзякуючы яго нястомнай працы, сапраўднага паэта сваёй справы, школа сяла Паўлыш зрабілася прыкметным асяродкам перадавой педагагічнай думкі, а настаўнік Сухамлінскі—яе шырока прызнаным аўтарытэтам.

Савецкі ўрад высока ацаніў яго працу. Васіль Аляксандравіч — заслужаны настаўнік, член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР, Герой Сацыялістычнай Працы.

У лірычных навелах, якія я прапаную ўвазе чытачоў «Літаратуры і мастацтва», самае каштоўнае, што ўмее бачыць В. Сухамлінскі ў сэрцах сваіх выхаванцаў, — гэта тая чысціня даверу, тая чуласць і дабрата, без якіх немагчыма выхаванне чалавека, грамадзяніна, патрыёта.

Сонечныя зярняты людской дабраты, сабраныя руплівай рукой настаўніка і пісьменніка, не могуць не запасці і ў душы нашых дарослых чытачоў, адказных за тое, якімі людзьмі павінны вырасці іх дзеці.

Васіль ВІТКА.



В. Сухамлінскі сярод школьнікаў.

В. СУХАМЛІНСКІ

# ПШАНІЧНЫ КАЛАСОК

*Аркадзю Куляшову, народнаму паэту Беларусі, перакладчыку ўкраінскай «Энеіды».*

У Сяргейкі, вучня другога класа, старэйшы брат Максім пайшоў служыць у Савецкую Армію.

Прыслаў брат пісьмо дадому. Піша, што служыць далёка-далёка на Поўначы, каля вялікага халоднага мора. Вартуе мяжу Радзімы.

На Поўначы ўсё не такое, як дома. Куды ні зірнеш—каменне, каменне, толькі сям-там маленькі кусцік. А мора бясконцае, суровае, магутнае; несціханна бушуе, шуміць.

Маленькі лісток у канверце—асобная просьба да Сяргейкі.

«Сяргейка,—піша старэйшы брат,—цяпер у нас, на Украіне вясна, хутка лета пачнецца. Схадзі, Сяргейка, у поле, сарві каласок пшаніцы, пакладзі ў канверт і прышлі мне».

Вельмі здзівіла Сяргейку братава просьба. Пайшоў ён за ваколіцу, доўга стаяў каля пшанічнага поля. Узяў у руку каласок і задумаўся: што ў ім, у гэтым каласку? Навошта ён брату?

Сарваў Сяргейка каласок, паклаў яго ў канверт. І напісаў брату: «Каласок сарваў я на ніве, што пачынаецца за нашаю хатаю. Напішы мне, браце, што ў гэтым каласку?» І стаў чакаць адказу ад брата.

# МАТЧЫНА СІВАЯ КАСА



Штовечар сямігадовы Тараска сустракаў тату, які вяртаўся з работы. Гэта была радасная хвіліна: тата адчыняў дзверы. Тараска бег яму насустрач. Тата браў Тараску на рукі. Маці ўсміхалася, завіхаючыся ля стала. Яна рыхтавала тату вячэру.

Аднаго разу Тараска прыйшоў са школы і ўбачыў: мама сядзіць каля акна сумная, задумлівая.

Чаму ты такая сумная, мама? —спытаўся ўстрывожаны Тараска.

— Тата болей не прыйдзе да нас,—пaціху сказала мама.

— Як не прыйдзе?!—здзівіўся хлопчык.—А куды ж ён пойдзе?

Мама сказала:

— Ён не хоча жыць з намі. Ну... Ён сёння прыйшоў і забраў усе свае рэчы...

— Чаму?—ускрыкнуў Тараска.—Чаму?

— Таму, што ў мяне сівая каса...

Тараска заплакаў. Прытуліўшыся да пасівелай матчынай касы, ён ціха сказаў:

— Дык гэта ж твая каса, мамачка... Твая ж каса такая прыгожая! Хіба ж тата гэтага не бачыць?

— Не бачыць, сынку...

# ПРАВАЯ І ЛЕВАЯ РУКА

Мама выпраўляе пяцігадовага Петрыка ў булачную і гаворыць:

— Вось табе пятнаццаць капеек—вазьмі ў правую руку, каб не забыў: купі хлеба. А гэтыя пятнаццаць капеек вазьмі ў левую, каб не забыў: купі сабе марожанага.

Пабег Петрык хуценька. Праз колькі хвілін вяртаецца, даядаючы марожанае.

— А хлеб дзе?—пытаецца маці.

— Не купіў.

— Чаму не купіў?

— Бо грошы згубіў.

— Грошы згубіў? Трэба ж было хлеб купіць, а не марожанае.

— Дык я ж згубіў тыя пятнаццаць капеек, што былі ў правай руцэ,—сказаў Петрык.—А ў левай руцэ не згубіліся...

Маці паківала галавою.

Селі вячэраць. Маці наліла супу, а хлеба няма.

— Мама, а хлеба няма?



— Няма. Ты ж грошы згубіў.

Петрык узяў лыжку ў левую руку і стаў есці суп.

— Чаму гэта ты ясі леваю рукою?—здзівілася маці.

— Няхай правая рука ведае, як губляць грошы.

# БАЦЬКА ВЯРНУЎСЯ



У адной шчаслівай сям'і расло двое дзяўчынак-блізнят: Зіна і Зоя. Дзяўчынкам споўнілася па два гады. Яны з нецярпеннем чакалі штодня, калі бацька прыйдзе з работы. Беглі насустрач яму ад парога да варот. Бацька браў іх на рукі: Зіну на правую, а Зою — на левую. Так і ўваходзіў у хату — з дочкамі на руках, а насустрач ім ішла маці.

І вось прыйшло на нашу зямлю вялікае гора—напалі фашысцкія захопнікі. Пайшоў Зінін і Зоін бацька на фронт. Тры гады біўся з фашыстамі. Часта слаў пісьмы, штораз горача цалаваў Зіну і Зою і жадаў ім расці шчаслівымі і здаровымі.

А потым пісем не было два месяцы. Раптам прыйшло адно, напісанае бацькавым франтавым таварышам. Пісаў ён Зіне, Зоі і маці іх, што бацька паранены, ляжыць у шпіталі і хутка вернецца дадому.

Цёплым сонечным ранкам напрадвесні Зіна і Зоя гулялі на двары. Ім ужо было па пяць год, і яны зляпілі снежную бабу. Каля хаты стаяла мама.

— Тата ідзе!—крыкнула яна.

Зіна і Зоя ўбачылі, як да іх набліжаецца высокі, стройны чалавек у шынялі, з мяшком за плячыма. Радасна крыкнуўшы: «Татка!»,—дзяўчынкі кінуліся насустрач. Яны працягвалі да яго маленькія ручаняты, чакаючы, калі татка возьме іх на рукі: Зіну на правую, а Зою—на левую. Дзяўчынкі хацелі ўзяць яго рукі ў свае маленькія ручаняты, каб ён хутчэй падняў іх, і раптам яны ўбачылі, што ў таткі няма рук. Толькі парожнія рукавы шыняля.

Дзяўчынкі падпялі галовы і спалохана глянулі тату ў вочы.

Бацька схіліўся над імі. З вачэй яго на белы снег упалі слёзы.

Зіна і Зоя абнялі тату. Прытуліліся да парожніх рукавоў і заплакалі:

— Ой, татачка, не трэба браць нас на рукі, мы ўжо не маленькія...—паціху сказала Зіна.

— Нам ужо, татачка, па пяць год...—паціху дадала Зоя.

# ГЛУХАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

У бальніцы была дзіцячая палата. Тут ляжала сямёра дзяўчынак, якім зрабілі аперацыю. Дзеці папраўляліся ўжо, але ім было вельмі сумна.

Самая старэйшая ў палаце дзяўчынка Таня, якой было трынаццаць год, адчувала сябе кіраўніком свайго маленькага калектыву. Адчыніўшы акно, яна любавалася садам.

— Ужо бэз цвіце...—задумліва гаварыла Таня.—І цюльпаны зацвілі. Давайце прынясем у палату кветку і паставім на стол у шклянцы. Добра, дзяўчаткі?

Маўчала толькі адна, васьмігадовая Ніна. Яна была глухая.

Ніна добра разумела, пра што ідзе гаворка. Ёй таксама было радасна: у палаце—кветка. Ёй таксама хацелася кіўнуць галавою ў знак згоды і радасна ўсміхнуцца, але яна адчула, што Таня не пытаецца ў яе.

— А якую ж мы кветку паставім—бэз або цюльпан?—зноў спыталася Таня.

— Бэз!—захацелася адным.

— Цюльпан!—захацелася другім.

— Няма згоды,—сказала Таня.—Давайце спытаемся ў кожнага.

Да кожнай дзяўчынкі падышла Таня:

— Якую кветку паставім на стол у шклянцы—бэз або цюльпан?

Траім хацелася, каб у палаце быў цюльпан, а траім—бэз.

— Што ж цяпер рабіць?—задумліва прамовіла Таня.—У яе вачах гуляла радасная ўсмешка: дзяўчынку захапляла гэтая гульня.

— Што ж рабіць—трое за цюльпан і трое—за бэз?.—яшчэ раз спытала Таня.

Раптам яе позірк упаў на Ніну. Глухая дзяўчынка сядзела каля акна, на яе вачах трымцелі слёзы. Слёзы крыўды. Бо яе і не пыталіся, якой кветкі ёй хочацца.

— Ой!—спахапілася Таня.—А пра Ніну мы і забыліся. Якое кветкі табе хочацца, Ніначка,—бэзу або цюльпана?

Ніна ўсміхнулася і тоненькім пальчыкам зрабіла ў паветры такі рух, што ўсе зразумелі: глухая дзяўчынка паказала кветку цюльпана.

Таня пайшла па кветку.

Ніна, усміхаючыся, глядзела ў акно.

# СПЫТАЎСЯ Ў БАБУЛІ

У Паўліка, жвавага, гарэзнага, няўрымслівага трэцякласніка, дзядуля загінуў на фронце. Дома, у старой скрыні, бабка захоўвае яго ордэны і медалі.

А нядаўна намалявалі вялікі партрэт дзядулі і павесілі ў класе, каля Паўлікавай парты. У Паўліка загарэліся радасныя агеньчыкі ў вачах, калі ён убачыў дзядулю, як жывога: грудзі ў ордэнах, на пілотцы — чырвоная зорка.

Але неўзабаве радасць змянілася гаркотаю. Бывае ж такое—не выканаеш задання, а настаўнік з дакорам:

— Як жа табе не сорамна. У цябе ж дзядуля—герой, ты ж сядзіш побач з яго партрэтам...

Аднаго разу Паўлік паставіў на парту асколачак люстэрка і стаў пускаць сонечных зайчыкаў. Суседка па парце, старшыня савета піянерскага атрада Алёнка, шэпча:

— Хіба можна так рабіць на ўроку? Хіба твой дзядуля пускаў сонечных зайчыкаў?

Крыўдна і цяжка стала Паўліку.

У суботу настаўніца сказала:

— Сёння пойдзем у лес. Бяжыце хуценька дадому, занясіце кніжкі і вазьміце з сабой есці.

Паўлік падышоў да адчыненага акна, скочыў і ўжо меўся дадому пабегчы, як насустрач яму—настаўніца. І калі толькі яна паспела выйсці з класа?

— Хіба ж так піянеры робяць?—сказала яна.—Спытай у бабулі: ці скакаў калі-небудзь у акно твой дзед?

На першым уроку ў панядзелак Паўлік падняў руку:

— Я спытаўся ў бабулі...

— Пра што?—забылася настаўніца.

— Спытаўся, ці скакаў дзядуля ў акно...

— Ну і што сказала бабуля?

— Мой дзед аднаго разу праз комін вылез, калі яго пасля ўрокаў у школе пакінулі...

Мал. В. ТАРАСАВА.

